*— Каго любіш?*

*— Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

20 СНЕЖНЯ 1996 г. № 51 (3875) Кошт 2 500 руб.





# *І РАПТАМ ЗАПАНУЕ ТАЯ ЦІШЫНЯ...*

## Колькі слоў пра Лілію ДАВІДОВІЧ

Не ведаю, каму як, а мне ў нашым закулісным настроі, падчас рэпетыцыі надта дарагія, (назаву іх нават свяшчэннымі), тыя хвіліны раптоўнай цішыні, што здараюцца ў разгары творчых спрэчак. Бывае, запануе ціша накшталт тае, што стаіць у школьным класе на ўроку дыктанта па роднай мове. Толькі настаўніца з перапынкамі паўтарае слова за словам: “Цягнік прыйшоў у Мінск у восем раніцы, і Васіль убачыў прывакзальную плошчу ў шэрані цёплага туману...” На рэпетыцыі ж тую цішу парушае толькі голас рэжысёра, які складае сваю фармулёўку.

Так бывала, напрыклад, калі Барыс Эрын ставіў у нашым тэатры даўно забытую п’есу Ус. Іванава “Блакада”. Неверагодныя здарэнні ў ёй і заблытаныя асабістыя ўзаемаадносіны паміж персанажамі прымушалі акцёраў звяртацца да рэжысёра то з адным, то з другім пытаннем: “А чаму ён... Скуль яна ўзяла... Ці апраўданы псіхалагічна гэты крок?”

Лілія Давідовіч выконвала ў “Блакадзе” нязвыклую тады для яе ролю маладой піцерскай пралетаркі, якая па-жаночы прагне... Але, Вольга Жыхарка схільная да лёгкага шчасця. Адчуваючы, што жыць па загадах яе сэрца і запатрабаваннях цела ёй перашкаджае партыйны білет, яна яго на шматкі рве і кідае кавалкі гэтага дакумента з воклічам: “Вось што засталося ад маёй партыі!..” А калі жалезны бальшавіцкі камісар накіроўваецца на кранштацкі лёд супроць мяцежнікаў, дык гэтая Вольга чуе ад яго: шкада, маўляў, не ўдалося мне паспаць з табою. І тое гаворыцца ёй у прысутнасці яе мужа, Лук’яна, роднага сына гэтага камісара-нахабніка!..

Не, мы тады такую біялагічна-сацыяльную блытаніну адразу зразумець і потым натуральна паказваць на сцэне не ўмелі. І вось Лілія Міхайлаўна дамагалася ад завадатара пастаноўкі гэтай арыгінальнай п’есы тлумачэння далікатных сітуацый, у якіх дзейнічае яе гераіня, здатная каго хочаш здзівіць скандальнымі выбрыкамі. Блісне Ліля сваімі ўсмешлівымі вачамі, спытае здзіўлена — і Барыс Уладзіміравіч не адразу знойдзе патрэбную, а галоўнае, пераканальную матывоўку ўчынку або рэплікі тае свавольніцы.

Такая яна ў Купалаўскім тэатры, актрыса Л. Давідовіч. Дапытлівая. Патрабавальная. Старанная. Прынцыповая ва ўсім, што звязана з творчым жыццём нашага калектыву. Па-грамадзянску актыўная і на сцэне, калі іграе ролю, і ў штодзённых клопатах. Горача адстойвае годнасць акцёрскай прафесіі. Яна не выстаўляецца артысткай, а з’яўляецца ёю па прыродным таленце і паводле адукацыі. Яна не “лезе ў палітыку”, а жыве інтарэсамі сваёй Бацькаўшчыны. Яна не падладжваецца і не набіваецца на калежанства і дружбу, а дружыць і робіць сумесна з таварышамі па працы сваю справу.

Цікава, што адным з першых спектакляў нашага тэатра, дзе мы адчулі ў Л. Давідовіч менавіта такога навічка ў трупе, быў маладзёжны і называўся — “Першая старонка”. Калі я не памыляюся, там гераіню, маладую камсамолку, выбіраюць сакратаром раённага камітэта, і тая гераіня паказана ў руху да вяршыняў свайго поспеху. Не спрачаюся, п’еса была досыць прымітыўная і амаль ніякага следу ў нашым рэпертуарным даробку не пакінула. Затое Л. Давідовіч першую старонку сваёй акцёрскай біяграфіі тады запоўніла тэмпераментна і ярка. І ў ансамблі з вопытнымі партнёрамі не згубілася, выступіла, як кажуць, упоравень з вядомымі ўжо артыстамі.

Ну, скажа нехта, гэта і не дзіва, бо Купалаўскі тэатр і запрашае да сябе лепшых выхаванцаў акцёрскага факультэта. Яны і абавязаны працаваць на ўзроўні сваіх педагогаў, часцяком таксама з ліку купалаўцаў. Да таго ж Ліля вучылася ў К. Саннікава, якому і дасюль выказвае шчырую падзяку за каларытныя ўрокі не толькі прафесійнага накірунку, а і жыццёвых паводзін тэатральнага чалавека. Пэўны стыль купалаўскай трупы і яе этычныя прынцыпы яна, відаць, засвойвала яшчэ студэнткай. Бо мы, акцёры першага пасляваеннага пакалення, і нашы

*(Працяг на стар. 10)*



# КОЛА ДЗЁН

***Адна з мараў прэзідэнта збылася: нарэшце ён займеў парламент, які забяспечыць у краіне парадак і стабільнасць. Парадуемся разам з ім і запомнім гэтыя словы, што прагучалі на адкрыцці першага пасяджэння палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі (гэтак званай "ніжняй" палаты "парламента"). Але, падобна, шэсць гадоў перабудовы і пяць незалежнасці не прайшлі дарма, бо былога "адзінадушша і адзінагалосся", мяркуючы па першых галасаваннях, і ў новай палаце не будзе... Вядома, гэта дробязь у параўнанні з тым, што ў цэлым у "парламенце" сабраны "верныя і адданыя" прэзідэнту людзі. І тым не менш. Ведаючы ўменне прэзідэнта сваіх сяброў ператвараць у ворагаў, а прыхільнікаў у апазіцыянераў, можна быць упэўненым, што да стабільнасці і парадку нам яшчэ далёка. І добра. Бо такія стабільнасць і парадак, пра якія мараць улады, бываюць толькі ў адным месцы — на могілках.***

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

На Беларусь прыехаў Данчык. Сам па сабе факт звычайны і ніхто не чакаў, што прыезд простага амерыканскага хлопца на радзіму дзядоў зноў станецца падзеяй. Мяркуем не па афіцыйным друку і тэле, а па канцэртах і сустрэчах, якія праходзілі з нязменным аншлагам: білеты раскупляліся загадзя, залы былі перапоўненыя. Прычым невыпадковымі людзьмі, а свядомымі; прычым вабіла іх не столькі "бардаўская" песня, колькі прага да еднасці... Пра такі ажыятаж, які быў увесь гэты тыдзень у Мінску вакол імя Данчыка (у пэўных колах), і не марыць нават ніводная маскоўская ці мясцовая "зорка" (таксама ў пэўных колах)... А значыць — Жыве Беларусь!

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

У чарадзе адставак, што прайшлі на Беларусі падчас лістападаўскага супрацьстаяння дзвюх галінаў улады, апошнім стала вызваленне ад пасады Генеральнага пракурора Беларусі В. Капітана. Высокае месца доўга вакантным не заставалася. 12 снежня прэзідэнт прызначыў на гэтую пасаду яшчэ аднаго свайго земляка — пракурора Магілёўскай вобласці Алега Бажэнку, які раней працаваў пракурорам Шклоўскага раёна... Просіцца цытатка, як каментарый: "— Откуда дровишки? — Из леса, вестимо..." *(М. Някрасаў, XIX ст.).*

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Недэмакратычная палітыка і спроба прэзідэнта А. Лукашэнкі ўвесці на Беларусі аўтарытарны рэжым выклікаюць заклапочанасць і трывогу за лёс краіны ў цэнтры Еўропы ў самых уплывовых міжнародных арганізацыях. Еўрапарламент на мінулым тыдні прыняў рэзалюцыю, у якой асуджаецца палітыка А. Лукашэнкі і падкрэсліваецца, што Еўрапарламент не ратыфікуе пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю, пакуль не атрымае ад беларускіх улад яскравага доказу, што яны будуць "прытрымлівацца дэмакратычных прынцыпаў і асноўных правоў чалавека". Праз колькі дзён у Дубліне кіраўнікі 15 дзяржаў Еўрасаюза паўтарылі гэтыя патрабаванні да ўладаў Беларусі і папярэдзілі, што падобная палітыка прэзідэнта А. Лукашэнкі перашкодзіць уступленню Беларусі ў Савет Еўропы...І тут — цытатка-каментарый: "А Васька слушает, да ест..." *(І. Крылоў, XIX ст.).*

## НОВАЎВЯДЗЕННЕ ТЫДНЯ

Кіраўнікі палаты прадстаўнікоў Нацсхода Беларусі ўсур'ёз заклапочаны павышэннем ккдз (казфіцыента карыснага дзеяння) дэпутатаў. Дзеля гэтага і было прыдумана новае звышдэмакратычнае правіла: галасаваць толькі "за" ці "супраць", і ніякіх там "устрымаўся". Усе сумненні (як і сумленне) дэпутаты цяпер павінны пакідаць дома. Думаецца, за ходам гэтага "беларускага эксперыменту" з цікавасцю будуць сачыць у Еўрапарламенце і парламентах асобных краін. А рай- і аблсаветам час ужо і вопыт пераймаць.

## АБВЯРЖЭННЕ ТЫДНЯ

15 снежня "Известия" надрукавалі артыкул, у якім сцвярджаецца, што адразу пасля надрукавання бюлетэняў для галасавання на рэферэндуме на Беларусі пачалі друкавацца талоны на асноўныя прадукты харчавання, якія пачнуць дзейнічаць пасля Новага года... Мы жывем не ў Маскве, а ў Мінску і таксама заўважаем, што ўслед за "яйцом" з нашых крам пачалі знікаць малочныя прадукты. Скажам, каб набыць сметанковае масла, трэба абысці не адну краму, а смятану можна і наогул не шукаць... Яшчэ горшае становішча ў памежных з Расіяй абласцях — Гомельскай, Віцебскай і Магілёўскай, дзе і без талонаў "у адны рукі" прадаецца толькі пэўная колькасць прадуктаў. Аднак, замест таго, каб прызнаць, што "ёсць цяжкасці", улады Беларусі ў чарговы раз выступілі з абвяржэннем "хлусні і паклёпу", што нібыта распаўсюджвае паважаная газета. Метады знаёмыя з "залатых" — талонных — савецкіх часоў, калі модным было выслоўе: колькі ні гавары "халва" — соладка ў роце не стане, колькі не абвяргай "паклёпнікаў — прадуктаў у крамах не пабольшае"... І сюды — цытатка: "Калі ўраду для народа нічога не шкада, шкада народа". *("Времечко", НТБ, 18 снежня г. г.).*

## ПРАБЛЕМКА ТЫДНЯ

Згодна самай новай Канстытуцыі Беларусі парламент цяпер у нас павінен быць прафесійным, а гэта азначае, што дэпутаты "ніжняй" палаты Нацсходу Беларусі павінны будуць працаваць на пастаяннай аснове, альбо, калі казаць яшчэ дакладней — мусяць развітацца са сваімі цяперашнімі кіраўніча-гаспадарчымі пасадамі. Паводле інфармацыі газеты "Свабода" (N 95), згоду на гэта далі толькі 32 дэпутаты са 100. Астатнія вагаюцца: пакідаць "цёплае" месца ў калгасе, на прадпрыемстве ці ў "вертыкалі" дзеля няпэўнай будучыні ў Мінску альбо не? Вось і думаюць зараз дарадцы прэзідэнта, што рабіць: "даціскаць" дэпутатаў, змяняць новенькую канстытуцыю ці праводзіць давыбары?

## НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

Беларускае тэлебачанне там, дзе ёсць выбар (НТБ, РТР, Санкт-Пецярбург, а то і Польскае ТБ), цяпер мала глядзяць. Затое ў правінцыі яно застаецца адзінай крыніцай самай свежай інфармацыі. Пра асвятленне падзей на Беларусі, іх падбор і каментаванне казаць не будзем. Апошнім часам кінулася ў вочы дзіўная канцэпцыя падачы інфармацыі замежнай. Калі глядзіш міжнародныя навіны з Мінска, то складваецца ўражанне, што ва ўсім свеце толькі тое і робіцца, што праходзяць нейкія мітынгі, дэманстрацыі, страйкі, якія не разганяюцца альбо разганяюцца паліцыяй (смачныя кадры), ліквідуюцца нейкія экстрэмісцкія выступленні праціўнікаў уладаў і г. д. Ага, пэўна, павінен думаць электарат, усюды ёсць незадаволеныя і тыя, хто "мяшае" і рвецца да ўлады, але калі "там" з экстрэмістамі і нацыяналістамі не цырымоняцца, дык што "нам" з імі цацкацца...

*Адгалоскі*

# АДНО АМАЛЬ ЭТНАГРАФІЧНАЕ НАЗІРАННЕ

По роду сваіх службовых абавязкаў супрацоўніка мясцовай газеты даводзіцца бываць на ўсялякіх культурна-масавых мерапрыемствах рознага кшталту і ў Оршы, і на раёне. У жніўні давялося прысутнічаць на адным з такіх. "Спасаўскія вячоркі" — так называлася тэматычная вечарына, што праводзілі супрацоўнікі метадычнага цэнтра Аршанскага райаддзела культуры. Надвячоркам жыхары вёскі Дзевіна амаль цалкам запоўнілі залу свайго сельскага клуба.

Вячоркі ішлі звычайным ходам: вітанні, песні, забавы, загадкі, віктарыны... Вячоркі хутка захапілі дзевінцаў, і яны з задавальненнем пляскалі ў далоні пад песні, што гучалі са сцэны клуба.

— Спас яблычны ўжо прайшоў, — дапытвалася ў залы вядучая вечарыны, — а хто ведае, які Спас святкуецца сёння?

Зусім няшмат знайшлося сярод прысутных знаўцаў, а дакладней толькі адна жанчына сталага веку здолела прыгадаць, што ў гэты дзень спрадвеку адзначаўся мядовы Спас.

Вёска Дзевіна знаходзіцца на паўночнай ускраіне раёна — перыферыя, глыбінка, ці як там яшчэ? І каб сяляне не ведалі сваіх адвечных свят?! Гэта мяне проста ўразіла. Але гэта яшчэ што ў параўнанні з тым, што было далей!

А далей была чарговая віктарына. Вядучая вечарыны падзяліла залу клуба пароўну на дзве часткі, больш дакладна, на дзве каманды. Якая з гэтых каманд гледачоў наспявае больш песень, тая і атрымае прыз.

Зразумела, песні ў такіх выпадках спяваюцца самыя любімыя, вядомыя ўсім, дарагія, блізкія сэрцу. Неяк гадоў з дзесятак таму давялося пабываць на Украіне на вяселлі. Ах, якія песні там спявалі за сталом, адна адной лепш! Але што запомнілася: толькі свае, украінскія, некалькі эстрадных, а больш народныя. Ніякай расійскае папсы і блізка не было. І гэта ў горадзе!

Ну вось, падумалася мне ў дзевінскім клубе, зараз загучаць "Касіў Ясь канюшыну", "Ручнікі"... У горадзе хоць на вяселлі, хоць на вечарыне нашы песні ўжо даўно не пачуеш. А гэта ж як-ніяк беларуская вёска.

Што ж, "Ручнікі", праўда, усё ж прагучалі, але аб гэтым ніжэй. Першая палова залы, больш маладзейшая складам, пачала: "Ой, цветёт калина в поле у ручья..." Другая, больш сталага ўзросту, адказала: "Что стоишь, качаясь, тонкая рябина..." Першая: "Провожал меня молодой матрос..." Другая: "Ты скажи, скажи, калина, как попала я сюда..." Затым удакладнялі "Виновата ли я", затым — "Расцветали яблони и груши". І толькі пасля "груш" першая каманда заспявала "Цячэ вада ў ярок". Гэта была сёмая па ліку песня.

Вось так: сёмае месца пасля шасці прыступак, занятых расійскай папсой! Але пад восьмым нумарам пайшлі "Ручнікі". Здаецца, тыя, ды не тыя. Мелодыя тая самая, а вось словы... З усяго тэксту рызыкну прывесці хіба што прыпеў другога куплета:

З учарашняй п'янкі я чуць на нагах стаю,

Дай апахмяліцца, а то ўтаплюсь!

Канцэрт паступова перарос у танцы, танцы — у святочнае застолле з абавязковай медавухай, а гэтая гульня-віктарына ўсё не выходзіла з галавы, усё круцілася неадвязная думка: няўжо пяройдзена тая мяжа, за якой працэс дэнацыяналізацыі народа становіцца незваротным? Канчаткова мяне дабіла тое, што немаладыя даяркі з калгаснай фермы пад чарку зацягнулі за сталом "Нежность" А. Пахмутавай ("Опустела без тебя земля...").

Што тут скажаш? Калі ў народа ў душы не застаецца нават сваёй песні, то з гэтым народам можна рабіць усё, што захочаш. Такі народ прагаласуе і супраць сваёй ужо амаль страчанай мовы, і супраць чаго вы хочаце, і за што вы хочаце. Нехта трапна заўважыў: вартасць народа вызначаецца па тым, колькі людзей можа выйсці на вуліцы ў пераломныя моманты гісторыі. Нельга прыдумаць больш красамоўнай ілюстрацыі да гэтай сентэнцыі, чым апошнія падзеі ў нашай сталіцы. Што ж, сапраўды так: народ — гэта яшчэ не ёсць нацыя, а насельніцтва — гэта яшчэ не ёсць народ.

Мне здаецца, што ў нас проста татальна не тое што недаацэньвалася, але нават ігнаравалася так званая масавая культура. Амаль нікога не цікавіла, амаль нідзе не дыскутавалася — якой папулярнай музыкай запоўнены наш тэлерадыёэфір? У выніку ўзровень нашай эстрады і расійскай папсы, якой сёння літаральна ўсё запоўнена, непараўнальны. Ужо як мінімум два пакаленні выраслі пры татальным уздзеянні папулярнай музыкі ды іншых прадуктаў маскульту "старэйшага брата". Вось чаму цяпер нават на вечарынках у вузкім коле "нацыянальна-свядомай" моладзі амаль не пачуеш беларускіх песень, гучыць усё тая ж "Ой, цветёт калина..." Уздзеянне маскульту на свядомасць цэлых пакаленняў у такіх маштабах не магло не пакінуць следу не толькі ў іх свядомасці, але і ў падсвядомасці. Калі б аўтар знакамітага выслоўя пра важнейшае для нас з мастацтваў быў жывы сёння, то, здаецца, да кіно ён абавязкова дадаў бы і эстрадную песню. Ва ўсялякім выпадку, разбурэнне нацыянальнай свядомасці асобы ў гэтым напрамку ідзе асабліва актыўна. Тут нават нельга параўноўваць нас з той жа Украінай, не кажучы ўжо пра іншыя краіны СНД. Нездарма ў апошнія гады эстрадныя шоу сталі складальнай часткай важнейшых палітычных кампаній у Расіі. І вельмі красамоўны той факт, што менавіта канвеерныя "зоркі" расійскай папсы сталі асноўнымі ўдзельнікамі разрэкламаванага БТ канцэрта "в поддержку президента" напярэдадні так званага рэферэндуму. Прычым ледзь не кожны выступаючы лічыў сваім абавязкам падкрэсліць, што "мы же, в принципе, один народ".

Баюся, што працэс дэнацыяналізацыі ў бліжэйшай перспектыве не спыніцца. Мы ўжо цяпер у вачах Еўропы сталі дзіўным народам, які так і не здолеў стварыць свайго нацыянальнага гімна, які самахоць адмовіўся ад сваіх нацыянальных святыняў і амаль гатовы адмовіцца ад сваёй дзяржаўнай незалежнасці, а вышэйшай мераю аб'ектыўнасці для нас становяцца тон і пункт гледжання на падзеі ў нас расійскіх СМІ.

Што ж, аптымізму мала, але трэба цвяроза глядзець на гэтыя рэчы. Ва ўсялякім выпадку, у адным мяне не разупэўняць ніякія тэлевізійныя вячоркі з паказной дэманстрацыяй народных строяў фабрычнага пашыву: беларуская вёска больш не з'яўляецца захавальніцай мовы, а ў значнай ступені й звычаяў, абрадаў і фальклору беларускага народа. Старэйшае пакаленне нашай вёскі ў лепшым выпадку з'яўляецца носьбітам толькі пасіўнай памяці, не больш. Гэта рэальнасць, якую трэба ўсвядоміць і ўспрыняць.

**Юрка КОПЦІК**

*г. Орша*

*Кіно*

# БЕГ, А НЕ СТАЯННЕ НА ПАРОЗЕ

Саўнарком парупіўся пра сённяшняе свята беларускага кіно. Падпісаў пастанову пра ягонае, мовім так, утварэнне. 17 снежня 1924 года.

"Прастытутка" падтрымала беларускае кіно на самым пачатку. Пракатаная па некалькіх краінах, дала грошы на "Лясную быль" і на "Чырвонае лісце"...

На парозе рэфармавання беларускага кіно мы... сталі (паводле заўвагі крытыка). Стаім. Можна ўесці, што ніяк не трапім у хату. А пра хату варта хіба ў звязку з Саўнаркомам ды з "Прастытуткай". Беларускае кіно мог бы прыняць беларускі дом. Дома ў нас няма. Хіба кватэркі — у каго ад бацькоў, у каго ад наступнікаў Саўнаркома.

Натуральна, не аспрэчыць міністра культуры Беларусі Аляксандра Сасноўскага, маўляў, трэба быць вар'ятам, каб адмовіцца ад падарунка лёсу — напрацовак ды набыткаў нашага кіно. (Лёсу ці Саўнаркома?). Што варта зрабіць усё, каб гэты падарунак захаваць, падтрымаць, каб яму па-ранейшаму быць. Існаваць. Што на дзевяноста пяць адсоткаў, калі меркаваць па суме бюджэту, наш падарунак — кіно міністэрствам сфінансаваны сёлета. Што на год наступны прасілі з бюджэту шэсцьдзесят мільярдаў, што далі (паабяцалі даць) дваццаць пяць. Што не менш як трыццаць адсоткаў любой сумы сам Аляксандр Уладзіміравіч пускаў бы на маладых у кіно. Што няма ў ім, у кіно, ды ў іх, у творцаў, інстытута прадзюсерства. (Чытайце ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа" інтэрв'ю з віцэ-прэзідэнтам "Беларускай асацыяцыі кінавідэапрадзюсераў і дыстрыб'ютараў"). Што "ў нас ёсць усё, каб беларускі кінематограф займаў сваё пачэснае месца ў сусветным шэрагу..."

Слухалі міністра на прэс-канферэнцыі 16 снежня. Якраз напярэдадні кінасвята. Спачувалі. Валерый Рыбараў маўчаў. Ніна Фральцова (цяпер ужо як галоўны рэдактар "Беларусьфільма") чакала пытанняў, але не прычакала. Ігар Дабралюбаў давёў, што рэжысёры сёння могуць працаваць кім хочаце. Як, дарэчы, ва ўсе часы, — дадаў міністр. "Кіно — гэта шчаслівы і трагічны від мастацтва", — зазначыў Уладзімір Гасцюхін, распавядаючы пра здымкі карціны "Батанічны сад", — пра свой рэжысёрскі дэбют. Паабяцаў усімі сіламі садзейнічаць зберажэнню кінастудыі ад раскідання. Іван Калінка, генеральны дырэктар "Беларусьфільма", чаго толькі не расказаў пра здымкі: пра "З пекла ў пекла", пра "Пачакальню" ("Зал ожидания"), — серыял, заказаны ГРТ. Пра мільярды ды мільёны рублёў — сваіх, расійскіх ды долараў. Свята беларускага кіно давала падставы для разлікаў, рахункаў ды падрахункаў. Развагі заставаліся хіба ў Анатоля Красінскага, аднаго з самых паважаных кінакрытыкаў й кіназнаўцаў Беларусі. На іх, развагі, відавочна бракавала часу.

17 снежня свята беларускага кіно спраўдзілася ў кінатэатры "Масква" прэм'ераю фільма "Бег ад смерці".

Бег — гэта не стаянне на парозе, хоць сабе і рэфармавання.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# КАЛЯДЫ З "САНОРУСАМ"

**Адраджаючы традыцыі старасвецкіх капэл, што былі распаўсюджаныя ў еўрапейскай Беларусі два стагоддзі таму, Мінскі абласны камерны хор "Санорус" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута далучыў да сваёй працы аркестравых музыкантаў. І дэбют хору з аркестрам пад кіраўніцтвам маэстра А. Шута адбыўся, як вядома, увосень, у сталічным касцёле святых Сымона і Алены. Тады, прынамсі, прагучала Соль-мажорная Імша Ф. Шуберта.**

**У новай канцэртнай праграме, якую рыхтуе калектыў, побач з музыкай Ф. Шуберта прадстаўлены творы І. С. Баха і А. Літвіноўскага — рознабаковая вытанчаная мастацкая праца гэтага беларускага кампазітара выклікае апошнім часам цікавасць і слухачоў, і саміх выканаўцаў. Вось такому, зацікаўленаму ў супрацоўніцтве, маэстра і даверыў ён свой новы вакальна-сімфанічны твор — кантату "Да Маці Божай" для салістаў, хору, аркестра і аргана. Тэксты А. Літвіноўскі ўзяў з беларускага малітоўніка кс. А. Станкевіча.**

**Уверцюрай да прэм'еры можна назваць нядаўняе выступленне "Саноруса" ў Лагойску, дзе сярод іншага выконваліся фрагменты гэтай адмысловай кантаты. Цалкам жа новая праграма прагучыць у Вялікай зале сталічнай філармоніі пры канцы студзеня. Але яе своеасаблівая калядная прэм'ера чакаецца праз некалькі дзён: абвешчаны два канцэрты хору "Санорус" у касцёле св. Сымона і Алены. Завітайце ў храм на плошчы Незалежнасці 25 і 29 снежня, прасвятліце свае сэрцы прыгожай чыстай музыкай!**

**С. Б.**

# "НЯСУ ЦЯБЕ, СВАЁ ЦЯПЛО..."



**У Лідскай мастацкай галерэі адбылася выстава пятнаццацігадовай Каці Янчэўскай, вучаніцы школы-гімназіі. Сваім настаўнікам, які ўвёў яе ў свет мастацтва, Каця лічыць Аляксандра Вараксу — выкладчыка школы N 14. "Нясу цябе, сваё цяпло..." — так назвала Каця выставу.**

**Бясспрэчна, большасць дзяцей — таленавітыя. Бо сама прырода адвяла час нашага дзяцінства для творчасці. Работы Каці Янчэўскай цікавыя не толькі тым, што выкананы рукою школьніцы. Да яе таленту можна падысці з крытэрыямі "дарослага" мастацтва. Яе работы адрозніваюцца пачуццём кампазіцыі, складаным багатым каларытам, яны маюць своеасаблівы характэрны стыль. У пейзажах, партрэтах Каця аддае перавагу акварэльнай тэхніцы, але спрабуе сябе і ў жывапісе алеем.**

**Упершыню творы Каці экспанаваліся некалькі гадоў таму ў дзень адкрыцця галерэі. Удзельнічала яна ў выставах Гродна і Мінска. Цяперашняя выстава ў галерэі "Лідзея" — першая персанальная.**

**Талент, вядома, паняцце шматграннае. Акрамя заняткаў жывапісам, Каця піша вершы, прозу. Выставы, конкурсы, публікацыі... Не мае значэння, якую прафесію абярэ дзяўчына ў будучым — мастацтва ці літаратуру. Яна назаўжды застанецца творцам і будзе несці людзям святло і цяпло сваёй душы.**

**Ларыса ДРАКО**

*г. Ліда*

*На здымку: К. Янчэўская на выставе*

*Фота У. ЯНЦЭВІЧА*

***На Беларусь зноў прыехаў Данчык. Амерыканскі беларус Багдан Андрусішын, прадстаўнік славутага роду беларускіх адраджэнцаў Луцкевічаў, спявак з анёльскім, як называюць некаторыя прыхільнікі, голасам... Графік яго сёлетняга візіту на Беларусь вельмі напружаны. Але на другі дзень пасля стамляючай паездкі ў Гародню, 15 снежня, Данчык прыйшоў у Чырвоны касцёл на плошчы Незалежнасці ў Мінску, у дольную залу, якую арандуе беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч". У гэты дзень у тэатры адбылася прэм'ера монаспектакля "Віленскія мроі" паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай з роду Мэнке. Спектакль расказвае пра Івана Луцкевіча, стрыечнага дзеда Данчыка. Успаміны Ю. Вітан-Дубейкаўскай былі перададзены мастацкаму кіраўніку тэатра "Зніч" і выканаўцы спектакля Галіне Дзягілевай з Вільні Лявонам Луцкевічам, а да гэтага пабывалі ў Амерыцы, у сям'і Данчыка. Таму не дзіўна, што і ў Данчыка, і ў яго цёткі сп. Маргарыты Пяровай з Санкт-Пецярбурга, якая прыехала з пляменнікам у Мінск, гэты спектакль не мог не выклікаць зацікаўленасці. На гэты раз невялікая зала тэатра не змяшчала ўсіх жадаючых падзяліць відовішча са славутым госцем. Спектакль зрабіў на прысутных незвычайнае ўражанне. Сам Данчык, якога папрасілі выказаць са сцэны думкі пра ўбачанае, зазначыў, што актрыса Галіна Дзягілева стварыла сапраўдны цуд, і шчыра падзякаваў ёй за выдатнае акцёрскае майстэрства, за тое, што ў спектакль яна ўклала ўсю сваю душу, усе сілы, і змагла перадаць узрушэнне зале. Пасля, зразумела, Данчык заспяваў. На жаль, імправізаваны канцэрт доўжыўся нядоўга. Але гледачы былі задаволеныя ўжо тым, што пабачылі зблізку і пачулі чалавека, які стаўся нацыянальнай легендай. І пераканаліся: Данчык не страціў ні сваёй абаяльнасці, ні таленту.***

***Імпрэза набыла працяг у Дзяржаўным музеі гісторыі Беларусі, дзе адкрылася выстава, прысвечаная 115-й гадавіне нараджэння Івана Луцкевіча і 75-м угодкам адкрыцця Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Данчык, сп. Маргарыта і іншыя госці, прадстаўнікі беларускай творчай і навуковай інтэлігенцыі, проста шчырыя беларусы пазнаёміліся з экспанатамі цудоўна аформленай выставы. Пасля, ужо за гарбатай, якую зладзілі для гасцей супрацоўнікі музея, Данчык зноў заспяваў. Усіх уразіла, што і на сцэне, для шматлюднай аўдыторыі, і для вузкага сяброўскага кола Данчык аднолькава ўкладае ў песні душу, паўсюль аднолькава шчыра і ўзнёсла лунае яго голас...***

***Там жа, у музеі, з Данчыкам для нашай газеты была запісана гутарка, якую і прапануем чытачам.***

# "...Я ВЫКЛЮЧНА БЕЛАРУСКІ АРТЫСТ"

**— З чым Вы прыехалі сюды, якія планы цяперашняга візіту на Беларусь?**

— Планы адны — выступіць з канцэртамі, каб як мага больш людзей прыйшло на іх, і не толькі прыхільнікі, але і тыя, што мяне не чулі. І каб усё адбылося на добрым артыстычным узроўні.

**— У першы прыезд вакол вас стварыўся сапраўды ажыятаж... А як цяпер?**

— Тое, што тады адбылося, для мяне было вельмі нечаканым. Я прыехаў зусім не як спявак і не меў намеру даваць канцэрты... Але засталіся самыя лепшыя ўспаміны. Я разумею, што спрычыніўся да справы адраджэння беларускай свядомасці. І з той жа мэтай прыехаў і гэтым разам. І спадзяюся, што падобны прыём з боку гледачоў можа быць зноў. Але бачу і тое, што з'явіліся некаторыя цяжкасці, у прыватнасці, з месцам выступу. Не вельмі прыхільна многія ставяцца да маіх канцэртаў і адмаўляюць мне ў сцэне. Не ведаю, чаму. Я нічога не сказаў яшчэ палітычнага, а ўжо — такая рэакцыя... Так што расчараванне ёсць. Бо людзі быццам бы хочуць прыйсці, але няма білетаў... Не ведаю, чаму маюць стаяць пустыя залы, калі я маю жаданне, маю сілы, пакуль яшчэ спяваю, заспяваць для ўсіх... Так што трохі крыўдна... А ўвогуле я тут ужо чацвёрты дзень і вельмі добра чуюся...

**— Вы сказалі жахлівую фразу: "Пакуль я яшчэ спяваю"...**

— Нішто не вечнае... Ні жыццё, ні голас. Найлепшыя спевакі ў свеце ў рэшце рэшт мусяць ісці ў адстаўку. Мне яшчэ не столькі гадоў, каб пра гэта думаць, але... Цяжка выбрацца сюды, і гэта робіцца ў час адпачынку. А тым больш калі я вярнуся ў Амерыку, будзе складана адарвацца... Дык я і падумаў,пакуль я яшчэ ў Еўропе — трэба прыехаць.

**— Вы прывезлі новыя песні?**

— Вялікая частка песень новыя. І папершае — калядкі, якіх я ніколі не спяваў у канцэртах. Атрымалася, што меўся прыехаць у верасні, а адклалі да снежня, і ў гэты час немагчыма, каб хоць дзве-тры песні не былі калядкамі.

**— Вы ў нас — легенда... Напэўна, цяжка быць "легендай"? Вашы спадарожнікі расказвалі, як падчас канцэрта ў Гародні вас ледзь не "разабралі на сувеніры"...**

— Гэта крыху шызафрэнічнае пачуццё, таму што я не ёсць легенда. Калі і ёсць — хіба ў Беларусі. А ніздзе больш. Так што гэта раздвойванне асобы. Калі я бачу, што людзі тут на мяне глядзяць, як на нейкую "зорку", здзіўляюся. Я сам маю такіх "зорак", на якіх бы так глядзеў...

**— Хто гэтыя "зоркі"?**

— Ёсць такая акцёрка, Тарыла Паўнці, з якой я сябрую. Яна брадвейская акцёрка, спявае, цудоўна грае... Я пазнаёміўся з ёю дзякуючы Вользе Корбут, калі тая была ў Нью-Йорку. І мы дагэтуль кантактуем. Дык вось, я на яе так гляджу, як тут многія на мяне.

**— Як жа ацэньваюць вас як спевака, артыста небеларусы за мяжой (бо для беларусаў вы паўсюль — нешта сакральнае)?**

— Я там практычна не выступаю. Мне раяць, можа, не гаварыць, што я не прафесійны спявак, але гэта ёсць праўда — я ніколі не зарабляў са спеваў грошы, і ніколі не вучыўся спяваць, і не практыкуюся кожны дзень. Магу сказаць зусім вольна, што я непрафесійны... Але як я заспяваю сваім амерыканцам — ім таксама вельмі і вельмі падабаецца. Некаторым. Ёсць і беларусы, і ўкраінцы, і грэкі, і амерыканцы, якім мой голас абсалютна не падабаецца. Але я думаю, што можа 75 працэнтам людзей падабаецца. Але я нідзе больш не выступаю на сцэне. Ні ў Празе не выступаў, ні ў Мюнхене, хаця ўжо пяць гадоў у Еўропе жыву. Я выключна беларускі артыст.

**— Усіх прыхільнікаў хвалюе асабістае жыццё Данчыка, яго планы ў ім на будучае.**

— О, я вельмі прыватны чалавек. І ў прыватнай гутарцы я мог бы пра гэта гаварыць, але ёсць розныя "табу", і лепш на гэтыя тэмы не пачынаць.

**— Сёння вы ўбачылі прэм'еру спектакля тэатра "Зніч" "Віленскія мроі", які прысвечаны памяці вашага сваяка Івана Луцкевіча. Якія ўражанні ад спектакля?**

— Уражанні цудоўныя. Па-першае, для мяне гэта была неспадзёўка. Я ведаў, што Галіна Дзягілева ставіць монап'есы. І нядаўна прачытаў успаміны Юльяны Мэнке. Мая бабця дастала іх ад Юльяны Дубейкаўскай. Я помню, як я быў яшчэ малы, а бабця сядзела і гэты рукапіс друкавала. Яна казала, як важна, каб гэта нехта выдаў. І я ведаю, што ў Амерыцы да "Успамінаў" паставіліся вельмі абыякава, што маю бабцю вельмі здзівіла, і вельмі прыкра было ёй і ўсёй нашай сям'і. Бо гэта адзіны дакумент пра Івана Луцкевіча, дзе ён убачаны вачыма самага блізкага чалавека і дзе расказваецца пра яго асабістае жыццё. Для мяне была неспадзеўка пабачыць гэта сёння на сцэне. Трэба, каб спектакль "Віленскія мроі" атрымала магчымасць пагледзець як мага больш людзей, і не толькі ў гэтай маленькай зале. Хоць тут вельмі ўтульна і ўсё прафесійна. Галіна Дзягілева, выканаўца галоўнай ролі, мяне проста ўзрушыла. Не ведаю, колькі часу — гадзіну, больш, — яна адна на сцэне, і проста вочы ад яе не можна адвесці. Яна проста ператварылася ў Юльяну Мэнке так, як я ўяўляў яе з ейных успамінаў. Галіна Дзягілева сапраўды вялікі майстар на сцэне. Мы ўсе вельмі захопленыя.

**— Цяпер часцяком ідзе гаворка пра асаблівасці ментальнасці беларусаў. Ёсць у нас такія-сякія рысы, часам станоўчыя, часам і не, якія вылучаюць беларусаў сярод іншых народаў. Вы — увасабленне беларускасці. Якія тыповыя нацыянальныя рысы характару за сабой ведаеце?**

— Мой бацька — украінец, маці — беларуска. Маю шмат сяброў і ўкраінцаў, і беларусаў... Так што цяжка вылучыць нейкія



менавіта беларускія рысы... Беларусы вельмі лагодныя і добрыя, але, можа, да празмернасці. Трэба ж не быць такімі добранькімі ва ўсіх справах. І калі нехта табе наплюе ў суп, дык выліць гэты суп яму на галаву, а не з'есці. Не можна проста апусціць рукі і сказаць — "о'кей, няхай так будзе". Сказаць "вось мы такія, мы такі народ, такія лагодныя ды добрыя" — не прычына. Нельга за гэтым хавацца.

**— А вы маглі б жыць на Беларусі?**

— Ведаеце, тут цікава. Прачнуўся сёння ў гатэлі і ўспамінаў, як некалі думаў: о, як страшна сюды ехаць. Зубы павыбіваюць, і гэтак далей... А тут кожны дзень цікавы. Але ясна — я тут з візітам, гэта не ёсць жыццё. Бо як застанешся — то... не ведаю. Але чалавек прывыкае да ўсяго.

**— Як там нашы беларусы за мяжой?**

— Я думаю, ім таксама, у прыватнасці, маім калегам па працы на радыё, цікава там жыць. Можа, выгадней і багацей, але ім, асабліва журналістам, было б цікавей тут. Бо там, на адлегласці, яны не адчуваюць усяго, што адбываецца тут. І Сержуку Сокалаву-Воюшу, думаю, таксама хацелася б вярнуцца на Беларусь у хуткім часе. Прынамсі, з візітам.

**— Калі ў будучым думаеце яшчэ прыехаць на Беларусь?**

— Пакуль канкрэтных планаў не маю. Галоўнае, каб усё добра было тут. Не ведаю, дзе я буду жыць у наступным годзе, у якой краіне, на якім кантыненце.

**— А што б вы хацелі ўбачыць наступным прыездам на Беларусі?**

— Каб было так, як тры гады таму, калі на сцэне філармоніі за адным сталом сядзелі людзі розных поглядаў і святкавалі адно свята — Незалежнасць Беларусі... Ва ўспамінах Юльяны Мэнке ёсць словы пра Івана Луцкевіча: "Не сумна яму было паміраць, бо былі людзі, якія падхапілі яго справу". І я думаю, што такія людзі яшчэ ёсць.

**— Дзякую за гутарку, Данчык. Мы заўсёды чакаем вас на Беларусі.**

**Гутарыла з ДАНЧЫКАМ**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

*Недзе на пачатку сямідзесятых гадоў амаль у шасцідзесяці тэатрах Савецкага Саюза з поспехам ішла п'еса беларускага драматурга Алеся Петрашкевіча "Трывога", якая прыцягнула ўвагу гледачоў тым, што ў ёй мо ўпершыню ў драматургічна завостранай форме прагучала трывога з нагоды такой пачварнай з'явы, як п'янства. Неўзабаве А. Петрашкевічам сумесна з вядомым беларускім кінарэжысёрам В. Туравым па матывах згаданай п'есы быў створаны мастацкі кінафільм "Уваскрэсная ноч", які карыстаўся немалым экранным поспехам.*

*Сплыло з тае пары два з паловай дзесяцігоддзі, але праблема, якой прысвяцілі свае творы абодва мастакі, на жаль, па-ранейшаму актуальная. Нават больш чым актуальная. Вальтэр неяк заўважыў, што спадарожнікамі войнаў і іншых грамадскіх катаклізмаў заўсёды з'яўляюцца вошы і шарлатаны. Можна было б дадаць да гэтага — і татальнае п'янства, падзенне нораваў. Тое, што вызначае і наш цяперашні смутны час.*

*Бадай, з гэтага пачаў сваю гаворку Алесь Петрашкевіч, зайшоўшы днямі ў "ЛіМ". Пасля такога ўступу можна было чакаць, што пісьменнік выме з партфеля артыкул на згаданую тэму і пакладзе яго на стол рэдактара. Замест гэтага Алесь Лявонцьевіч прапанаваў арганізаваць на старонках тыднёвіка яго, Петрашкевіча, дыялог з урачом-нарколагам. Дыялог, прысвечаны навале алкагалізму, што абрынулася на краіну. Ну, што ж, не кожны дзень чытачы і аўтары "ЛіМа" прыходзяць у рэдакцыю з падобнымі прапановамі. І хоць пару гадоў назад наш тыднёвік праводзіў "круглы стол" на тэму барацьбы з п'янствам і алкагалізмам, было вырашана падтрымаць ініцыятыву госця рэдакцыі, тым больш, што актуальнасць такой гаворкі сёння набыла яшчэ большую вастрыню.*

*Такі "круглы стол" днямі і адбыўся. У суразмоўнікі Алесю ПЕТРАШКЕВІЧУ мы запрасілі намесніка галоўнага ўрача Мінскага наркалагічнага дыспансера, кандыдата медыцынскіх навук Уладзіміра МАКСІМЧУКА, намесніка начальніка Упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі палкоўніка міліцыі Аркадзя ЧАРНІКЕВІЧА, а таксама начальніка аддзела спажывецкага рынку Міністэрства эканомікі рэспублікі, кандыдата эканамічных навук Мікалая ШЭЛЕГА. У гаворцы за "круглым сталом" прынялі ўдзел галоўны рэдактар "ЛіМа" Мікола ГІЛЬ і рэдактар аддзела публіцыстыкі газеты Міхась ЗАМСКІ.*

*Гаворка за лімаўскім "круглым сталом"" атрымалася такою...*

"КРУГЛЫ СТОЛ" "ЛіМа"

# ТРЫВОГА

**М. Гіль:** Мы бачым сёння абвальнае алкагольнае ачмурэнне народа. Сітуацыя проста трагічная. Быў ядзерны Чарнобыль, цяпер — алкагольны. Не менш небяспечны. Днямі мне трапілі на вочы, здаецца, у "Звяздзе", такія лічбы: зараз у краіне знаходзіцца на ўліку больш як 153 тысячы алкаголікаў. Гэта — улічаных. А колькі не ўлічаных?..

**У. Максімчук**: Гэта толькі тыя, што стаяць на ўліку. Увогуле ж, недзе 10 працэнтаў насельніцтва Беларусі хворае на алкагалізм.

**М. Замскі:** 10 працэнтаў? Гэта ж — мільён чалавек. Мільён алкаголікаў?

**У. Максімчук:** Так, менавіта столькі. Толькі ў Мінску іх больш за 200 тысяч. Гэта людзі, у якіх сфарміравана алкагольная залежнасць арганізма. Дадайце да гэтага яшчэ 30—40 працэнтаў насельніцтва, якое злоўжывае спіртнымі напоямі, гэта значыць, спажывае іх некалькі разоў у тыдзень. Менавіта з гэтай катэгорыі людзей і фарміруецца "кагорта" хворых на алкагалізм. Яшчэ 20-25 працэнтаў нашага люду спажываюць алкагольныя напоі эпізадычна. Адным словам, больш як палова народа ў нас — пітушчая.

**А. Петрашкевіч**: Не сакрэт, што апошнім часам моцна распаўсюдзіўся жаночы алкагалізм.

**У. Максімчук**: Сапраўды, жанчыны ў гэтым дружна ідуць у нагу з мужчынамі. Калі некалькі гадоў назад на 10 алкаголікаў-мужчын прыпадала толькі адна алкагалічка, дык цяпер — 6.

Алкагалізм моцна і памаладзеў. Сёння ў рэспубліцы на дыспансерным уліку знаходзіцца 5 тысяч непаўналетніх алкаголікаў.

**М. Замскі:** Дык нібыта і нямнога...

**У. Максімчук:** Гэта толькі хворых на алкагольны сіндром. Сюды не ўваходзяць падлеткі, затрыманыя органамі правапарадку за знаходжанне ў грамадскіх месцах у нецвярозым стане. Толькі ў Мінску такіх затрыманняў фіксуецца да 100 тысяч у год.

**М. Гіль:** Якую праблему ў нас ні ўзяць — эканамічную, сацыяльную, маральную, культурную — на ўсіх іх ляжыць адбітак гэтага зла. Пра што сведчыць, напрыклад, наша дэмаграфія? Працягласць жыцця нашых людзей з году ў год змяншаецца. Зазірніце на вясковыя ці на гарадскія могілкі. Колькі там апошнім часам пахавана людзей, што не дажылі да пенсійнага ўзросту! І вельмі часта прычына гэтага — п'янства...

**У. Максімчук:** Працягласць жыцця хворых на алкагалізм недзе на 22-25 гадоў ніжэйшая за сярэднюю па краіне. Калі сярэдняя працягласць жыцця мужчын у нас складае цяпер 58, а жанчын 67 гадоў, дык падлічыце, колькі жывуць алкаголікі. У пяць-шэсць разоў за апошнія гады ўзрасла колькасць алкагольных псіхозаў, а на гэтай глебе — вар'яцтваў, прыдуркаватасці і да т.п.

**М. Гіль:** Алкагалізм, п'янства — гэта і распад сем'яў. Мы ў "ЛіМе" праводзілі "круглы стол", прысвечаны праблеме дзіцячага сіроцтва. Як засведчылі запрошаныя ў рэдакцыю спецыялісты, зараз у Беларусі не менш утрыманцаў дзіцячых дамоў, чым іх было адразу пасля вайны. Але розніца паміж той і цяперашняй безбацькоўшчынай вельмі істотная. Тады гэта былі сіроты, бацькі якіх загінулі ў віхуры вайны, сёння ж, як правіла, сіроты пры жывых бацьках, пазбаўленых бацькоўскіх правоў.

**А. Петрашкевіч:** Ці перадаецца алкагалізм па спадчыне?

**У. Максімчук**: На адной з існуючых тэорый, калі адзін з бацькоў хварэе на алкагалізм, ёсць дзесяціпрацэнтная верагоднасць, што гэтая хвароба перадасца дзецям. Калі алкаголікамі з'яўляюцца абодва бацькі, такая верагоднасць узрастае да 20-25 працэнтаў.

**М. Замскі:** А некалі ж у народзе была святая традыцыя: перад першай шлюбнай ноччу маладыя не бралі ў рот спіртнога.

**А. Петрашкевіч:** Алкагалізм усё-такі паддаецца лячэнню? Зараз развялося столькі лекараў гэтай хваробы. За некалькі сеансаў яны гарантуюць алкаголіку поўнае выздараўленне.

**У. Максімчук:** Такія цуды здараюцца вельмі рэдка. У гэтай праблемы трэба вызначыць некалькі істотных момантаў. Па-першае, сёння ў нас фактычна скасаваны ўсе формы прымусовага лячэння алкагалізму. Я вышэй згадваў лічбы узятых на ўлік алкаголікаў, але гэта — адносныя дадзеныя. Яны адлюстроўваюць толькі колькасць хворых на алкагалізм, якія здзейснілі правапарушэнні. Тых алкашоў, за якімі не зарэгістравана парушэння грамадскага парадку, мы нават не маем права браць на ўлік. Літаральна ўчора да мяне ў дыспансер прыйшла маці з сынам з просьбай неяк утаймаваць "главу семейства", які п'яны адразу хапаецца за сякеру і пачынае з ёю ганяцца за дамачадцамі. Міліцыя ўмешвацца не хоча, бо ён... яшчэ нікога не забіў... Раней такіх асоб па рашэнні суда можна было адправіць у лячэбна-працоўны прафілакторый. Цяпер жа з васьмі падобных устаноў засталося ў краіне толькі дзве, астатнія скасаваны. Дарэчы, па рашэнні Вярхоўнага Савета. З-за таго, што ўтрыманне алкаголікаў у такіх установах не адпавядала міжнародным нормам, парушала правы чалавека. Там, у заходнім свеце, лічыцца, што чалавек сам для сябе вызначае, як сябе паводзіць. Калі ён парушае закон, яго проста судзяць і змяшчаюць у турму.

**М. Замскі:** Мне неяк даводзілася пісаць пра Светлагорскі ЛПП. Помню, па прызнанні яго персаналу, большасць хворых на алкагалізм вяртаюцца туды па некалькі разоў.

**У. Максімчук:** Я не кажу, што ЛПП было нейкім выйсцем са становішча, але ўсё-такі меры да алкаголікаў трэба прымаць жорсткія.

**М. Замскі**: Вы казалі, што працягласць жыцця алкаголікаў на 25 гадоў меншая, чым у сярэднім па краіне. Але ж трэба мець на ўвазе і тое, што яны скарачаюць не толькі ўласнае жыццё, а і сеюць смерць вакол сябе. П'яны за рулём, п'яны ля станка, п'яны ў сям'і... У адной з газет мне нядаўна кінулася ў вочы інфармацыя, паводле якой у Беларусі толькі за адзін дзень (22 лістапада г.г.) было зарэгістравана 6 забойстваў сярод сваякоў. Вось толькі некалькі прыкладаў. У вёсцы Ярашэвічы Аршанскага раёна п'яны чалавек перарэзаў горла брату, а потым павесіўся сам. У Жабінкаўскім раёне п'яны трактарыст зачапіў сваім трактарам жонку, якая стаяла на дарозе і трымала на руках 3-гадовага сына, які пры падзенні моцна ўдарыўся і пасля памёр у бальніцы. У Мінску пасля сумеснай п'янкі жонка нажом пырнула мужа ў сэрца і забіла яго... Дальбог, зусім звар'яцелі людзі ад той гарэлкі!

**А. Петрашкевіч:** Не будзе вялікім перабольшаннем сказаць, што з-за яе нацыя наша апынулася на мяжы вымірання. Я вас зараз здзіўлю адной гістарычнай даведкай. Ніхто іншы, як Адольф Гітлер, абмяркоўваючы план нападу на Савецкі Саюз, не абышоў і "праблемы" падрыву біялагічнага патэнцыялу насельніцтва захопленых тэрыторый. Для гэтага, лічыў фюрэр, патрэбны тры рэчы: ніякай медыцынскай дапамогі дзецям, паболей тытуню і паболей алкаголю. Як гэта не будзе кашчунна гучаць, але мы згаданую ўстаноўку самі няблага ажыццяўляем. Асабліва ў спайванні насельніцтва.

Я пачаў цікавіцца гэтай праблемай гадоў трыццаць назад, калі п'янства, алкагалізм яшчэ не былі так шырока распаўсюджаны, як цяпер. Перачытаў шмат спецыяльнай літаратуры, гутарыў са спецыялістамі, рознымі навукоўцамі і г.д. Вы, мабыць, чулі пра вядомага ленінградскага ўрача прафесара Углова, якому належаць дзве кнігі, прысвечаныя менавіта распаўсюджанню п'янства і алкагалізму. Дык вось, прафесар Углоў пісаў, што калі па краіне ў сярэднім на чалавека прыпадае больш як 29 літраў алкаголю ў год — працэс алкагалізацыі насельніцтва становіцца незваротным.

**М. Шэлег:** У 1995 г. спажыванне алкагольных напояў дарослым насельніцтвам склала каля 28 літраў.

**А. Петрашкевіч**: Людзі, якія адчуваюць нясцерпную настальгію па былым СССР, звычайна шлюць праклёны па адрасе Ельцына, Шушкевіча і Краўчука, якія "развалілі Саюз", падпісаўшы Віскулёўскія пагадненні. Ды не, не яны развалілі краіну, яе разваліла паўсюднае п'янства. А п'янства — гэта, акрамя ўсяго іншага, і нізкая дысцыпліна, нізкая культура вытворчасці, нізкая прадукцыйнасць працы і г.д. І вінавата ў гэтым сама дзяржава, якая спайвала і спайвае зараз свой народ. Хоць, вядома, улада ніколі ў гэтым не прызнаецца. Але ж куды ўцячы ад таго факта, што ў значнай ступені бюджэт фарміруецца за кошт продажу алкагольных напояў? Чым больш іх прададзена, тым лепш для бюджэту.

**М. Шэлег:** Нядаўна мне было дадзена заданне высветліць, якая частка бюджэту фарміруецца за кошт паступленняў ад продажу алкагольных напояў. Аказалася, толькі каля 10 працэнтаў.

**А. Петрашкевіч:** А які, цікава, дзяржава мае прыбытак, скажам, ад продажу бутэлькі гарэлкі?

**М. Шэлег:** За кошт акцызаў і падаткаў каля 70 працэнтаў.

**А. Петрашкевіч:** Вось бачыце! Як жа дзяржава не будзе павялічваць вытворчасць гэтай атруты?! Яшчэ некалькі гадоў назад у Беларусі было не больш дзесятка спіртаводачных заводаў, цяпер — пад 80.

**А. Чарнікевіч:** Даруйце, але мне дзіўна ўсё гэта чуць ад паважанага літаратара. Зарплату вы хочаце атрымліваць? На ахову здароўя, асветы, развіццё культуры і да т.п. патрэбны сродкі? Патрэбны. І вялізныя. А дзе іх узяць, калі эканоміка наша ў правале?

**А. Петрашкевіч:** Тым не менш, дзяржава павінна мысліць глабальнымі катэгорыямі. Кіравацца не сабекоштам вырабу гарэлкі, а ўва што гэта ўсё ў канчатковым выглядзе абыходзіцца народу, чым усё гэта яму пагражае. Добра, а чаму б, зрэшты, неяк не дыферэнцыраваць паступленні ў бюджэт ад продажу алкагольных напояў? Скажам, пускаць іх на фінансаванне антыалкагольнай прапаганды, развіццё культуры і да т.п.

**М. Замскі:** Улічваць паасобку "п'яныя" грошы?

**М. Шэлег:** Практычна зрабіць гэта немагчыма.

**А. Петрашкевіч:** Сёння толькі лянівы не крытыкуе антыалкагольную праграму Гарбачова, якую ён прапанаваў у 1985 годзе. Тым не менш, у ёй было шмат карыснага. Спажыванне алкаголю тады рэзка зменшылася.

**А. Чарнікевіч:** Праграма мела безліч заганаў. Было ў ёй больш паказухі, казёншчыны, чым здаровага сэнсу. І часта барацьба з распаўсюджваннем п'янства даводзілася да абсурду. Пачалі, да прыкладу, у паўднёвых рэспубліках вынішчаць вінаграднікі, у нас — знішчаць нават піваварную вытворчасць, пераабсталёўваючы яе для вырабу безалкагольных напояў. Я тады працаваў у Кастрычніцкім РАУС Мінска і, помню, усе меры па барацьбе з п'янствам зводзіліся да закрыцця пунктаў па продажы гарэлкі. Так і пісалі ў справаздачах: раней гарэлку прадавалі, скажам, у 10 магазінах, цяпер толькі ў адным. Затое што тварылася ў гэтым **адным**! Пачалася шалёная спекуляцыя спіртным, не кажучы ўжо пра тое, што рэзка ўзрасло самагонаварэнне.

**А. Петрашкевіч:** Але тады за самагонаварэнне прыцягвалі да крымінальнай адказнасці, а цяпер гэтаму міліцыя патурае.

**М. Гіль:** Справа дайшла да таго, што сёння самагонныя апараты з'явіліся ў дзяржаўным продажы. Сам бачыў у мінскім гаспадарчым магазіне "1000 дробязей" "прыбор" для вырабу ў хатніх умовах спірту.

**А. Чарнікевіч:** Гэта вы дарэмна пра патуранне міліцыі самагоншчыкам. Толькі ў гэтым годзе ў краіне да адказнасці за самагонаварэнне было прыцягнута больш як 17 тысяч грамадзян.

**М. Шэлег:** Дарэчы, у сельскай мясцовасці спажыванне алкагольных напояў зменшылася. Справа ў тым, што дзяржава вымушана прадаваць тут гарэлку даражэй, чым у горадзе, недзе на 14—15 працэнтаў, каб кампенсаваць выдаткі на яе дастаўку ў тыя ж сельмагі.

**М. Замскі:** Гэта акурат і стымулюе самагонаварэнне.

**А. Чарнікевіч:** Што да наступстваў, якія цягне за сабой п'янства, дык яны сапраўды жахлівыя. Тут ужо прыводзіліся прыклады, калі нават ачмурэлыя ад гарэлкі сваякі зводзяць паміж сабой крывавыя рахункі. Я б мог падобных прыкладаў прывесці ў шмат разоў больш. Але, разам з тым, па спажыванні алкаголю мы ў свеце не такія ўжо і чэмпіёны. Да прыкладу, у тых жа Італіі, Іспаніі, Францыі на душу насельніцтва спажываецца алкаголю нашмат больш, чым у нас.

**М. Замскі:** Але ж гледзячы, як яго спажываць. Адна справа — за абедам выпіваць бутэльку сухога слабага вінаграднага віна, як гэта робяць многія французы, другая — адразу "ўрэзаць" паўбутэлькі, а то і бутэльку саракаградуснай белай, каб адразу з капытоў. Людзі, якія шмат ездзілі па замежжы, заўсёды адзначаюць, што амаль не бачылі там п'яных. Ва ўсякім разе, такіх, што апусціліся да жывёльнага стану. А ў нас?

**М. Шэлег:** Забараніць наогул ужыванне алкаголю — гэта ілюзія. Сухія законы, якія прымаліся ў многіх краінах, карысці не прыносілі, бо адразу рэзка ўзрастала кантрабанда спіртных напояў, і на гэтай глебе буйным цветам расцвітала мафія, наогул злачыннасць. Што тычыцца культуры піцця, дык тут сапраўды ёсць над чым падумаць. Я нядаўна вярнуўся з камандзіроўкі ў Германію і цікавіўся там гэтай праблемай. Што немцы п'юць? У асноўным піва і сухія віны. У "рацыёне" ж нашых аматараў зялёнага змія — 50—60 працэнтаў моцных алкагольных напояў. 10 гадоў назад прапорцыя гэта была істотна іншай. Мяркуйце самі: у 1985 годзе ў рэспубліцы прадавалася 24,9 мільёна дэкалітраў віна. За 9 месяцаў гэтага года — усяго 5 мільёнаў дэкалітраў. Такая ж тэндэнцыя з вытворчасцю і рэалізацыяй піва. У 1985 годзе было прададзена 33,7 мільёна дэкалітраў піва, сёлета — толькі 9 мільёнаў дэкалітраў.

**М. Замскі:** Мяркуючы па цэнах на віно, дзяржава не зацікаўлена ў тым, каб павялічыць яго спажыванне. Сёння добрае сухое віно каштуе ў 2—3 разы даражэй за гарэлку. Некалі ж было наадварот.

**М. Шэлег:** Але ж віно не надта і купляласся. Помніце, колькі было ў магазінах сухіх він? Купляліся ж у асноўным пладова-ягадныя віны, так званае "чарніла". Менавіта яно дало назву цэламу пакаленню пітушчых людзей — "чарнільшчыкі".

**М. Замскі:** Дарэчы, прэса наша поўная паведамленняў аб шматлікіх выпадках атручвання гарэлкай, якая прадаецца ў фірменных бутэльках з фірменнымі этыкеткамі.

**У. Максімчук:** Так, у нас развялося нямаведама колькі падпольных заводаў па вырабе эрзац-гарэлкі, няма амаль ніякага санітарнага кантролю і над самагонаварэннем. А, між тым, многія самагоншчыкі намешваюць у свой прадукт для "моцы" абы-што, аж да птушынага памёту.

**М. Замскі:** Але вернемся да продажу віна. Добрага, сапраўднага віна. Нядаўна ў нашу рэдакцыю завітаў супрацоўнік пасольства Малдавіі ў Беларусі. Расказваючы пра сваю краіну, ён, між іншым, паскардзіўся, што Беларусь, увёўшы высокія мытныя пошліны на малдаўскія віны, якія высока цэняцца ва ўсім свеце, рэзка абмежавала ў сябе спажыванне гэтых він. Затое Беларусь, па яго словах, у вялікай колькасці закупіла грэчаскае нізкагатунковае віно, якое ў самой Грэцыі ніхто не п'е.

**М. Шэлег:** Я не валодаю такой інфармацыяй. Магчыма, ваш госць мае рацыю. Праўда ж такая: добрае віно стала ў нас вельмі дарагім дэлікатэсам, якое далёка не кожнаму па кішэні. А вось гарэлка, хоць цана на яе зноў крыху падскочыла, купляецца добра.

**М. Замскі:** Так, падскочыла, але і зараз бутэлька белай каштуе танней, чым кілаграм варанай каўбасы. Некалі было наадварот, закуска была нашмат танней. Мо таму сёння і столькі п'яных — п'юць і не закусваюць.

*(Працяг на стар. 12)*

# СА СПАДЧЫНЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

**Дзякуючы газеце "Голас Радзімы" прыхільнікі таленту выдатнай беларускай адраджэнкі, мужнага чалавека змаглі пазнаёміцца з аўтабіяграфіяй Ларысы Антонаўны. Яна ў свой час пісалася Л. Геніюш па просьбе ўкладальніка кнігі аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў "Пяцьдзесят чатыры дарогі" і "Пра час і пра сябе" Я. Казекі, які ў 1967 годзе прыступіў да складання трэцяга аналагічнага зборніка. Але кніга "Вытокі песні", як вядома, выйшла без жыццяпісу Ларысы Антонаўны. Справа ў тым, што ў аўтабіяграфіі былі мясціны, якія ў той час нельга было друкаваць. Разумела, відаць, гэта і сама аўтарка, але ад скарачэння, правак прынцыпова адмовілася. Паведаміла Я. Казеку, што няхай аўтабіяграфія паляжыць да лепшых часоў. І вось дзякуючы Я. Кісялёвай гэты матэрыял з'явіўся ў газеце "Сто ранаў у сэрца" — увогуле ці не першая аўтабіяграфія Л. Геніюш.**

# ВУЛІЦА РАБОЧАГА ПАЭТА

**На "Гомсельмашы" бадай што кожны ведае Міхаіла Буткевіча — заводскага паэта. Усё працоўнае жыццё звязана ў яго з гэтым прадпрыемствам. Слесар, кантрольны майстар, начальнік бюро тэхнічнага кантролю цэха. І хоць цяпер Міхаіл Антонавіч на заслужаным адпачынку, аднак сувязі з родным калектывам не парывае — часта пераступае ветэран заводскую прахадную, каб пацікавіцца, як ідуць справы ў камбайнабудаўнікоў, друкуе вершы на старонках мясцовай шматтыражкі.**

**А нядаўна ў жыцці М. Буткевіча адбылася радасная падзея — свет пабачыў другі ягоны зборнік вершаў. "Вуліца буслоў", — так назваў рабочы паэт сваю кнігу. Яна, і гэта прыемна адзначыць, як і папярэдняя, выдадзена на сродкі прадпрыемства і ў заводскай друкарні.**

**Хоць і цяжкае зараз становішча ў вытворчым аб'яднанні "Гомсельмаш", аднак тут добра помняць, што не хлебам адзіным жыве чалавек.**

***Васіль ТКАЧОЎ,***
***адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў***

# "РОДНАЕ СЛОВА", N 11

**Нумар адкрываецца вершамі М. Чарота "Звон", "Песня беларуса", "Беларусы". Яго творчасці прысвечаны артыкул М. Абабуркі "Гляджу я ў потнае акно вялікай будучыні...". Ёсць магчымасць пераглянуць старонкі творчасці і іншых беларускіх пісьменнікаў. А. Лапата-Загорскі ("Час вымагае") гаворыць слова пра Э. Ялугіна. А. Гібок-Гібкоўскі ("У віры імклівага жыцця") прачытвае апавяданні М. Зарэцкага. Не абыдзена ўвагай і замежная літаратура — артыкулы Е. Лявонавай "Сумленне супраць гвалту" (лёс і творчасць С. Цвэйга), Л. Баршчэўскага "Асветніцкі рэалізм" (раманы Д. Дэфо і Д. Свіфта).**

**У раздзеле "Культура Беларусі" прапануюцца матэрыялы: "Памятайце: вы — браты" В. Нячай (дакументальна-мастацкія тэлефільмы В. Шавялевіча), "Багі старажытнай Беларусі" Э. Зайкоўскага, "Дзе той век бурлівы?.." В. Скарабагатава (паэзія філаматаў у музыцы С. Манюшкі), "Па кім званіў звон над Дняпром" Т. Габрусь (архітэктурная спадчына Магілёўшчыны), "Жыццё на карысць Бацькаўшчыне" Ф. Ваданосавай (слова пра У. Тэраўскага).**

**Гутарка А. Гібкоўскага з галоўным рэдактарам штотыднёвіка "Наша слова" Э. Ялугіным "З надзеяй на цвярозы розум суайчыннікаў", артыкул Л. Камароўскай "Фальклорныя традыцыі ў апавяданнях Якуба Коласа" (дакастрычніцкі перыяд), вершы В. Алісевіча, прадстаўленыя М. Скоблам, і іншыя матэрыялы аб'яднаны ў раздзеле "На ростанях".**

Сярод кніг

# НЕАДЗІНОКАЯ ЗОРКА

Нехта сказаў, што паэты нараджаюцца сузор'ямі. І як зоркі, яны разам сталеюць, набываюць моц і святло. Па іх звяраюць шлях тыя, хто збіўся з дарогі... Колькі сузор'яў, у якіх зоркі з'яднаны між сабой нябачнымі нябеснымі лініямі, свецяць нам з начнога неба!

Нядаўна ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", у серыі "Першая кніга паэта", выйшла невялічкая, бел-чорна-жоўтая — па колерах вокладкі — кніжка вершаў і песень маладой паэткі Леры Сом. З дзіўнай, халаднавата-сумнай назвай — "Адзінокая зорка". Як прызналася сама аўтарка і як бачна з прадмовы Валянціны Аксак, толькі зараз — амаль праз дзесяць гадоў пасля з'яўлення! — дайшло да нас зорнае святло яе вершаў, "улоўленае на паперу". На жаль, такі "зорны лёс" амаль ва ўсіх першых паэтычных кніжак, што выходзяць у нашым дзяржаўным выдавецтве, — свяціць святлом даўно мінулых гадоў...

"Тыя, што йдуць па свеце...", "Ты куды імкнешся:..", "Мая сяброўка — цішыня...", "Песня вечнага ваяра", "З табой на выспе, дзе няма нікога...", "Адзінокая зорка гарыць...", "Папера цягне да сябе...", "Слова гуляе са мной..." — вось натуральная хада гарманічнага кантрапункту з назваў вершаў таго першага, зыбкага (ад слова "зыбка", калі гэта слова падыходзіць да апісання нараджэння зоркі) перыяду.

**Ты куды імкнешся,**
**Ты бяжы, дзіцёнак, —**
**Час яшчэ не выйшаў...**

**Пагляздзі на сонца,**
**Растварыся ў небе,**
**На зямлі прачніся...**

Гэта яшчэ юначыя пошукі — пошук сябра, свайго месца ў свеце, уласнай накіраванасці. У радках часта сустракаюцца вобразы "шляху", "дарогі", "сцежкі", "калідора", "моста". Душа лірычнай гераіні лётае над драматычнымі "скрыжаваннямі", баіцца зачараванага "кола" руху падзей жыцця (няўжо — няўмольнага Закона руху ў Сусвеце наогул?)... Аўтарка не носіць ружовых акуляраў, і яе юная зорка-гераіня, лёгкая і адухоўленая, напоўніцу адчувае ўвесь трагізм зямнога існавання. Гэтым, на мой погляд, і вызначаюцца вершы першай паэтычнай кніжкі Леры Сом.

У вершах раз-пораз узнікае вобраз мужчыны-сябра. Гэты своеасаблівы, уладарны вобраз-мару, такі натуральны ў смелай паэзіі Л. Сом, мы сустракаем у вершах "Ёсць ты і я, два светы, дзве душы...", "З табой на выспе, дзе няма нікога...", "Мы незнаёмыя. Мой Божа..." і іншых. Лірычная гераіня ("адзінокая зорка") "адчувае, што, магчыма, У свеце ёсць яшчэ адзіны — Няхай адзіны! — чалавека, З якім магчыма разуменне, І нават поўнае". Яна звяртаецца да яго — як "зорка зорцы голас падае":

**Я пайшла б за табой, сябра мой,**
**малады і стары,**
**Я пайшла б за табой, ды не ведаю,**
**ці пазавеш ты.**

Колькі разоў у іншых вершах гераіня называе Яго зямнымі, цёплымі словамі: "Мой родны!" — але бачна, што яна выразна адчувае і ўсю крохкасць, драматызм гэтага "касмічнага саюза":

**...Ды звязвацца са мной табе не раю:**
**Неразуменне будзе найчасцей,**
**Бо я хачу дайсці да небакраю.**

І ўсё ж такі жыццё — дабрэйшае, мудрэйшае, "зелянейшае" ад усіх чорна-белых схем, няхай нават і паэтычных! "Цяпер — якая ўжо адзінота! — адказвае паэтка ў сяброўскіх лістах аб вершах, сям'і і сыне. — А калісьці толькі адзінота й ратавала. Ну, а наконт "зоркі" — не мяне пытаць. Спадзяюся толькі, што ніколі не займею зорнай хваробы".

Галоўная гераіня не баіцца зданяў: здані — яе сяброўкі. "Мая сяброўка — цішыня, Мая сяброўка — адзінота", "сяброўка Вечнасць", "сяброўка-фея" ("фея Смутку")... Вось вобразы, выбраныя з розных вершаў. Скажы мне, хто твой сябар, і я скажу табе, хто ты! І хіба ты адзінокая, "адзінокая зорка", маючы такіх сябровак? ("...Якіх яшчэ вялікіх страт з такімі сёстрамі баяцца!" — хочацца ўсклікнуць тут словамі вядомага нашага паэта.) Можа, гэта імкненне да адзіноты — абагульнены сімвал маладога, дзёрзкага жадання дайсці да небакраю, апынуцца ў іншай прасторы, адчуць сябе касмічным аб'ектам, касмічнай сілай, жыць — іначай?!

**Людзі разам жывуць,**
**Людзі разам пасля паміраюць,**
**Я ж хачу навучыцца**
**У зоркі**
**Яе адзіноце...**

Лера Сом — паэтка, якая спявае; як сказана ў анатацыі, яна "найбольш вядомая

*Сом Лера. "Адзінокая зорка". Вершы і песні. Мінск, "Мастацкая літаратура", 1996г.*

# ЦУД ПАЧЫНАЕЦЦА З ТАЛЕНТУ

Выпадак у выдавецкай практыцы унікальны: рэдактар кнігі змяшчае ў ёй прысвячэнне аўтару. Тым не менш факт застаецца фактам: адгортваеш чарговы паэтычны зборнік Радзіслава Лапушына "Взрослее облаков", нядаўна выпушчаны выдавецтвам "Мастацкая літаратура", і — калі ласка... Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін выступае з вершам "Расчуленае перадзім'е", які мае адрас: "Радзіславу Лапушыну":

**Калі б у свеце ўсім адзін такі,**
**Як Вы, застаўся,**
**Жыць на свеце варта.**
**Чужэюць, халадзеюць дружбакі,**
**І з хмелем шчырасці мялее кварта,**

**З якое ў маладосці п'еш нагбом,**
**Як у люстэрка, ў дно**
**Глядзіш на схіле.**
**Званец на лузе,**
**На званіцы бом,**
**Здаецца, адцвілі, адгаманілі.**

**І ўзнікне звонка**
**Сябра малады,**
**Як гук,**
**Што сум на глухасць правярае.**
**Адлежна пацяплеюць халады,**
**І крыўдаў, і хвароб**
**Адстане зграя.**

**І возера паверыць астравам,**
**І абмакнецца ў дождж**
**Блакіту луста**
**Я словы Вашыя вяртаю Вам:**
**Без Вас у пана Бога будзе пуста.**

Выпадак сапраўды унікальны, але можна і зразумець шаноўнага Рыгора Іванавіча: не часта трапляюць у выдавецтва падобныя рукапісы. Прынамсі, сярод сённяшніх маладых рускамоўных паэтаў на Беларусі роўных Р. Лапушыну па майстэрстве няма. У гэтым пераканаўся і сам я, калі ў 1990 годзе, адразу пасля выхаду, рэцэнзаваў у "ЛіМе" яго першую кнігу "Три взгляда". І наступная "Между листьями и снегом" (1993) засведчыла і перакапала, што першапачатковае ўражанне ад паэзіі Р. Лапушына не было памылковым. Аўтар не толькі ўтрымаў узятыя вяршыні, а і сягнуў у мастацкай дасканаласці далей. Гэта пацвярджае і зборнік "Взрослее облаков". У раздзеле "Бессонница дождя" змешчаны новыя вершы Р. Лапушына, якія займаюць недзе тры чвэрці плошчы кнігі, а затым публікуюцца творы з першых дзвюх яго кніг, аб'яднаныя ў раздзелы "И вечеру опять прощает утро" і "Листья с дерева сна". Прытым падаюцца яны як бы ў зваротным кірунку. Вершы, датаваныя 1990—1993 гадамі, папярэднічаюць тым, што былі напісаны ў 1976—1989 гадах.

Мне могуць запярэчыць: было б жаданне — Р. Барадулін каго хочаш адрэдагуе, майстэрства яму не займаць! Што да кампліментаў Рыгору Іванавічу, дык, канечне, за іх вялікі дзякуй! А ў астатнім... Рэдагуй не рэдагуй, а калі ў чалавека няма Боскай іскрынкі таленту, нічога не атрымаецца. Застанецца хіба ўсё цалкам перапісам самому. А калі ўжо гаварыць пра рэдагаванне Р. Лапушына, дык гэта звычайны этап у выдавецкай рабоце, калі рукапіс рыхтуецца да друку і над ім працуюць розныя службы — ад карэктараў да палігрstates. Сама ж першаасnova — дыхтоўная, дасканалая, непаўторная. Рэдагаванне, тут — мінімальнае. Радуйся, паважаны рэдактар, што табе пашчасціла першаму далучыцца да гэтай нерушавасці, і "смакуй" яе, апярэджваючы будучага чытача.

Р. Лапушын, як мне здаецца, вершы зусім не піша ў традыцыйным разуменні гэтага працэсу як пэўнага мастакоўскага акту. Ён жыве імі, жыве паэзіяй, а яна ж, даўно стала аксіёмай, рэч непрадказальная. І вечную таямніцу яе, мабыць, да канца нікому не зразумець.

Пра нечаканасць кожнага чарговага паэтычнага кроку, калі ім называць той імпульс, з якога і нараджаюцца вобразы, з'яўляюцца паэтычныя асацыяцыі, а значыць і пра непрадказальнасць сёе-тое сведчыць і сам Р. Лапушын. Прынамсі, у яго ўступе да кнігі можна прачытаць наступнае:

"Мне кажется, что в стихах надо говорить словами, которых я еще не знаю. Стихи для меня — это жест, преодолевающий пространство. И одновременно — что-то очень простое, здешнее, без чего бывает невозможным открыть глаза или перейти улицу. Никогда не знаю, что будет дальше и будет ли что-нибудь. Можно повернуть в другую сторону и пропустить самое главное. Или наоборот — встретить. Можно так и не узнать, что какой-нибудь внезапно открывшийся просвет или вырвавшийся из оцепения звук — это и есть самое главное. Мне не дает покоя естественная непредсказуемость, как бы невольность каждого следующего шага. Мне нравится, что поэзия ничего не гарантирует".

Аднак падобная непрадказальнасць — непрадказальнасць самога цуда. І пра гэта, між іншым, таксама не прамінуў сказаць сам Р. Лапушын: "Есть непредсказуемость ужаса, катастрофы, провала. Но есть еще и непредсказуемость чуда, таящегося в самой действительности, способного в любое мгновение преобразить эту действительность и тебя самого".

І ўсё ж, якімі б значнымі, важкімі па думцы, напоўненымі абагульненнямі гэтыя згадкі ні былі, яны ўсё ж — тэорыя, няхай і "ўзгадаваная" на канкрэтным матэрыяле, на вопыце ўласнай творчасці. Куды больш могуць сказаць самі вершы Р. Лапушына, якія прамоўлены нечаканымі словамі і заўсёды надзвычай лаканічныя. Усяго некалькі радкоў, моцна скандэнсаваных аўтарскай думкай. Можна толькі здзіўляцца, наколькі паэт умее пісаць па-свойму. Нават напачатку можна падумаць, што як быццам і нічога незвычайнага, усё проста. Ды — падманлівая гэта прастата!

Вось першы верш кнігі:

**Пустая кухня. Грязная посуда,**
**Обломкі допотопных льдин.**
**И месяц смотрит ниоткуда,**
**И я один,**
**И мне не важно,**
**Что сжалась жизнь без завтрашнего дня,**
**И мне не страшно, ничего не страшно...**
**Спаси меня.**

Здавалася б, над усім пераважаюць бытавыя падрабязнасці. Ды і стыль твора быццам тэлеграфны (дарэчы, і ў многіх іншых вершах — таксама). Аднак як шмат нясуць у сабе апошнія словы: "Спаси меня". Гэта ўжо сапраўдны "SOS! Выратуй!" — просіць лірычны герой блізкага чалавека. "Выратуй!" — ледзь не крычыць ён, бо разумее, што для яго пагроза існуе нават не ў тым, што "сжалась жизнь без завтрашнего дня", хоць і гэта само па сабе небяспечна. Куды больш жахлівей іншае: "И мне не страшно, ничего не страшно..." А гэта супярэчыць чалавечай прыродзе. Гэта ненатуральна, калі чалавек нічога і нікога не баіцца. А яшчэ гэта таксама праяўленне таго, што нешта ў яго не так, як павінна быць.

Глыбіня думкі Р. Лапушына не на паверхні. У яго паэзіі — як у самім жыцці. Самае

як бард, аўтарка шэрагу песень, якія набылі папулярнасць сярод нацыянальна свядомай моладзі". І магчыма таму вершы ў зборніку скампанаваны так, што іх мелодыі, тэмы і вобразы заўважна перагукваюцца, перапляталюцца, пераходзяць з аднаго верша ў другі (часта літаральна ў наступны, суседні), узнікае як бы музычны дыялог на фоне адзначанага сюжэта: станаўленне зоркі. І атрымліваецца не проста зборнік вершаў — а быццам "лібрэта" сучаснай рок-оперы. Асабліва вылучаюцца "зонгі" "Да Руніты", "Песня вечнага ваяра", "Здані—ІІ" ("Па дарозе з Вільні на Полацак..."), "Душа Грамадзянскай Вайны..." Тут да месца заўважыць, што рэдактарам кніжкі Леры Сом з'яўляецца Леанід Дранько-Майсюк — паэт з тонкім музычным і паэтычным слыхам, сам аўтар колькіх папулярных песень і зонгаў.

У сувязі з гэтым зусім не дзіўна, што значная частка тэкстаў у кніжцы — гэта вольныя вершы, верлібры, якія патрабуюць ад аўтара дасканалага музычнага слыху, пачуцця рытму, бо будуюцца яны, пры адсутнасці звыклых канцавых рыфмаў, на інтанацыйных, меладычных "першаэлементах паэзіі". "У большасці сваёй вершы такога тыпу — гэта філасофская або медытатыўная лірыка", — заўважае "Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў", што, на мой погляд, цалкам адпавядае агульнай характарыстыцы няпростай, мужнай, удумлівай паэзіі Леры Сом. Можа, праўда, зашмат у паэтычным зборніку вобразаў "цыгарэт" і "кавы"... Але што зробіш: такі ў нас быт, і некаторых ён — да хваляванняў грудзях, да паэтычных радкоў — "апякае".

Лера Сом скончыла мастацка-графічны факультэт універсітэта ў Віцебску. Адукацыя мастачкі, уменне бачыць яшчэ адзін — паралельны свет у перспектыве, лініях і фарбах таксама наклала адбітак на яе вершы. У іх нярэдка "сустракаецца шматзначны анталагічны "колеравы код".

**Магілкі.**
**Фіялетава-ружовы захад**
**На фоне чорна-зялёных дрэў.**
**Зялёнае — веданне.**
**Чорнае — рэчаіснасць.**
**Але — белыя магілкі.**

Паэтка Лера Сом вельмі любіць свой родны горад Полацк, і частка вершаў у зборніку "Адзінокая зорка" прысвечана яму — адухоўленаму і супярэчліваму ў сваёй сучаснай шэрай, бетоннай галізне. Яна зрыфмавала яго назву — "Полацак" — са словамі "нехта за нас памоліцца". А ў іншым вершы прызнаецца:

**І гэты горад, праз які**
**Мяне завуць правінцыялкай,**
**Люблю да дрыжыкаў. І ён**
**(Здаецца мне) мяне калісьці**
**Ды не, не палюбіў — запомніў...**

Ёсць у гэтым вершы і амаль біблійны матыў "вяртання ў Полацак", знаёмы нам, напрыклад, па паэтычнай кнізе гэтаксама полацкага аўтара Уладзіміра Арлова "Фаўна сноў":

**І ведаю, што да яго**
**З любых шляхоў,**
**З усіх каханняў**
**Вярнуся...**

Чый гэта радок? Арлова? Сом? Яшчэ кагосьці?..

Ты — не адзінокая зорка, Лера Сом! Як твае рыфмы, што імкнуцца быць складанымі, састаўнымі, "вернасць" — "веры сэнс" "не пяюць званы" — "не пачуць маны", — гэтаксама і блізкія па духу людзі імкнуцца "зрыфмавацца", апынуцца побач, згрупавацца ў адно сузор'е, не надта моцна "расцягваючы зорную нітку" (твой "зорны" вобраз), пра якую ты згадваеш у сваім вершы "Да Руніты".

**Людка СІЛЬНОВА**

---

галоўнае хаваецца недзе ў глыбіні. Падзей, учынкаў, лёсаў. І ніколі не зразумець чалавека цалкам, ніколі:

**Умеет кланяться медведь,**
**Умеет лошадь изгибаться,**
**И лев старается терпеть,**
**На свист хлыста не огрызаться.**

**Но лев, и лошадь, и медведь,**
**Не могут весело смотреть,**
**Сквозь боль счастливыми казаться.**

Сатканая з нечаканасцяў, паэзія Р. Лапушына нязменна прываблівае вобразнай напоўненасцю, а самі вобразы — быццам прамень, што нечакана засвеціць ярка-ярка. І ты не ведаеш, скуль ён узяўся, але ўвесь пад уражаннем гэтага святла, у фокусе якога звыклае, паўсядзённае глядзіцца неяк па-новаму, а будзённае, шэрае набывае такія фарбы, што прыцягвае да сябе той вабнасцю, якая і сведчыць, што гэта нешта іншае, а сапраўдная паэзія:

**Весенний воздух озорной.**
**Сугробов звездные остатки.**
**Ворона — руки за спиной —**
**Гуляет, как министр в отставке.**

**Ребенок тянется, светясь,**
**Навстречу вспыхнувшему чуду.**
**И целомудренная грязь —**
**Повсюду!**

А метафарычная насычанасць, безумоўна, з'яўляецца і з той выключнай назіральнасці аўтара, калі здатнасць мысліць вобразамі прыходзіць не тады, калі перад табой чысты аркуш паперы, а з'явілася значна раней, была "падгледжана" ў жыцці. Як бы незнарок, акурат падчас гэтага загадкавага "жеста, преодолевающего пространство". І, калі ласка, хоць бы такі малюнак прыроды, калі ўсё ў чаканні змен:

**Осень...**
**Пустеющие остановки.**
**Дождь, захвативший власть.**

**Прищепка,**
**Раскачиваясь на веревке,**
**Пытается не упасть.**

Наўрад ці нешта можа быць больш важнае для паэта, чым уменне заўсёды, пры любой нагодзе здзіўляцца перад навакольным светам, жыццём?! Р. Лапушын не толькі валодае гэтым дасканала, ён лічыць не лішнім прызнацца, каб лішні раз нагадаць, наколькі яго лірычны герой — натура чулая і ўважлівая і наколькі з маленства захаваў ён сваю непасрэднасць, якой так не хапае многім, а ў выніку яны абдзяляюць сябе, паколькі застаюцца празмернымі прагматыкамі:

**Кривая улица, забор,**
**И грязь, и звездная терраса...**
**Увидев мир, я растерялся —**
**И не нашелся до сих пор.**

Каб жа і надалей працягвалася гэтая "растерянность", гэтае здзіўленне! А яно ў вершах Р. Лапушына — зусім не мастацкі прыём, калі паэты нярэдка "апрацоўваюць" лірычнага героя ў зададзеным кірунку. Гэта стан душы, прытым найперш стан душы самога аўтара, а ў выніку такая шчырасць, непасрэднасць... Вобразы-імпульсы нараджаюцца ў свядомасці як адкрыццё...

Праўда, хоць і рэдка, але часам атрымліваецца так, што вобразам цесна і яны пачынаюць як бы нанізвацца адзін на другі, а ў выніку з'яўляецца не характэрная Р. Лапушыну ўскладнёнасць радка, метафарыстычная рэбусавасць. Магчыма б, у іншага гэта ўспрыняў як паэтычную знаходку, але калі поруч сапраўдныя адкрыцці, гэтага не ўспрымаеш. Для прыкладу верш:

**Бабочка —**
**Наивная простушка —**
**Празднично расправила крыло.**
**Выпрямила**
**Спину раскладушка,**
**Солнце жизнерадостно взошло.**
**Облаком на пенсии**
**Подушка**
**Сушиться, рассевшись тяжело.**

Ці яшчэ адзін:

**Одуванчики —**
**Горожане,**
**Уходящие в землю цепко,**
**Уцелевшие прихожане**
**И апостолы**
**Синей церкви.**

А вось, здавалася б, нешта алагічнае, тым не менш уражвае. І той жа алагічнасцю, і вобразнай свежасцю, што з'явілася на "стыку" немагчымага:

**Наверное, это нелепо,**
**Но странная мучает мысль,**
**Что пена из мыльницы неба**
**Не может деревья отмыть.**
**И солнце ласкает слепо.**
**И хочется деревом быть.**

Яшчэ пра шмат якія творы Р. Лапушына хацелася б пагаварыць. Яны, несумненна, таго заслугоўваюць, ды, канечне ж, аматары паэзіі самі захочуць пазнаёміцца з гэтай цікавай кнігай, каб па вартасцях ацаніць набыткі яе аўтара. А ім нельга не радавацца, а яшчэ хочацца чакаць сустрэчы з новымі творамі паэта. Яны ж абавязкова будуць напісаны, бо ўзрост у Р. Лапушына самы што ні ёсць паэтычны. А галоўнае — паэзія не адпускае яго ад сябе, прываблівае вечнай загадкавасцю. Яна для Р. Лапушына — і стан душы, і духоўная патрэба:

**По неслышному следу**
**В направлении чуда**
**Я, наверно, уеду,**
**Если будет**
**Откуда.**

Цуд жа, як вядома, пачынаецца з таленту. А таленту Р. Лапушыну не займаць!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

Версіі

# ЦІ ВЫСМЕЙВАЎ ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ ПІНСКУЮ ШЛЯХТУ?

Традыцыйна ў савецкім беларускім літаратуразнаўстве адзначалася, што ў самым вядомым творы В. Дуніна-Марцінкевіча фарсе-вадэвілі "Пінская шляхта" сатыра аўтара скіравана як супраць царскага чыноўніцтва, так і ў адрас шляхты. Даследаванні рускага тэарэтыка мастацтва Міхаіла Бахціна ў 30-ыя гады і сучасныя літаратуразнаўчыя працы беларускага даследчыка Уладзіміра Конана аб прыродзе смеху, яго паходжанні і сутнасці даюць падставы сцвярджаць, што ў славутым творы Дуніна-Марцінкевіча мы сустракаем розныя формы праяўлення смеху — ад бяскрыўдных жартаў да з'едлівай, вострасацыяльнай сатыры.

Не выклікае сумнення, што галоўным аб'ектам сатырычнага высмейвання ў п'есе становіцца царскае чыноўніцтва, тагачасная бюракратычная сістэма, прадстаўніком якой у творы з'яўляецца судовы следчы Кручкоў. Невыпадкова ў канцы рукапісу твора, што захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве ў Вільні, ёсць прыпіска на польскай мове: "Брава, брава, брава. Вельмі ўдала паказаны характар увогуле ўсіх панства кручковых, якіх сёння спатыкаем на кожным кроку па некалькі".

Адназначана ж сцвярджаць, што аўтар п'есы сатырычна паказаў вобразы пінскіх шляхцічаў, будзе памылковым. На тое ёсць некалькі прычын. Па-першае, гэты тэзіс супярэчыць наогул поглядам В. Дуніна-Марцінкевіча на шляхту. Пісьменнік лічыў за гонар валодаць званнем шляхціца. Прыгадаем, што сам аўтар прыкладаў немалыя намаганні, каб дакументальна пацвердзіць сваё шляхецкае паходжанне. У сваім апошнім драматычным творы "Залёты" Дунін-Марцінкевіч убачыў у шляхце носьбіта лепшых чалавечых якасцей, супрацьпаставіўшы шляхту амаральнасці і бездухоўнасці буржуа. "Залёты" былі напісаны ўсяго праз чатыры гады пасля "Пінскай шляхты". Гэта сведчыць аб тым, што драматург не мог карэнным чынам змяніць свае погляды на шляхту — ад выкрывальнай сатыры да свядомай ідэалізацыі.

Па-другое, з боку літаратуразнаўчага аналізу п'есы вынікае, што катэгорыя камічнага ў адносінах да пінскай шляхты носіць не сатырычны, а гратэскавы характар. Сатырычны смех, як вядома, нясе ў сабе значную долю ідэалогіі, сацыяльна ангажаваны. Ён ставіць за мэту гнеўнае высмейванне пэўных сацыяльных тыпаў, сацыяльных з'яў. Сатыра аўтара, такім чынам, выступае як свядомае адмаўленне, рашучая апазіцыя ў адносінах да ствараемых вобразаў.

У камедыі "Пінская шляхта" мы не знойдзем адмаўлення шляхты як сацыяльнай групы. Наадварот, драматург неаднойчы падкрэслівае жыццяздольнасць шляхты, яе заможнасць, якая забяспечваецца прадуманым і рацыянальным вядзеннем гаспадаркі. Напрыклад, Куторга наступным чынам характарызуе дабрабыт сям'і Пратасавіцкіх: "...Стары грошы асмінаю мерыць; у гумне поўна, у хаце дастатак, і абора багата". У фінале фарса-вадэвіля той жа Куторга разам з хорам спявае:

**Нашы Пінскі акаліцы —**
**Жыццё хоць цару, царыцы.**
**Усяго досыць — прызірніся:**
**Еш, пі, хоць расперажыся.**

Сатыра звычайна адрасуецца антаганістычным сілам, а гратэск мае універсальны характар: яго смех звяртаецца да ўсіх, у тым ліку і да самога аўтара. У дачыненні да "Пінскай шляхты" гэтыя адрозненні маюць і маральны аспект: аўтар неабыякавы да шляхты, да яе мінулага і будучыні, таму ён, ствараючы карнавальна-гратэскавыя вобразы пінчукоў, прапануе шляхце зірнуць на сябе збоку.

Вобразы пінскіх шляхціцаў у творы — тыповыя прыклады амбівалентных гратэскавых вобразаў. На карысць гэтага гаворыць той факт, што мы не знойдзем сярод шляхты ніводнага яе прадстаўніка, паказанага ў творы сатырычна, выключна адмоўна. Найбольш пацярпеў ад савецкай крытыкі вобраз старога кавалера Куторгі, якога абвінавачвалі ў амаральнасці, крывадушшы. Між тым, гэта даволі прыцягальны і цікавы вобраз, намаляваны драматургам па-народнаму весела, добразычліва. У якой ступені амаральнымі можна лічыць заляцанні старога Куторгі да прыгажуні Марысі Пратасавіцкай, гаворыць разважанні шляхціца: "Дык што ж рабіць? Не я першы, не я апошні, — дурных дзядоў нямала на свеце божым". Вядома, што і жонка В. Дуніна-Марцінкевіча, Юзэфа Бараноўская, была значна маладзейшая за мужа. Вобраз Куторгі нагадвае чытачу любімага персанажа дарэформеннай творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча — Навума Прыгаворку. Куторга, як і Навум, на працягу твора сыпле прыказкамі і прымаўкамі, мудрасць і прыгажосць якіх робяць "прыгожым" і самога іх носьбіта. Вуснамі Куторгі дае аўтар народную ацэнку чыноўніку Кручкову — "як ліхі татарын", "у яго і рукі даўжэй, чым у другіх людзей", "яго прыпавесць: чырвонае-белае ўсё перадзелае"... Прываблівае ў вобразе Куторгі і яго ўменне крытычна паглядзець на час, грамадскія з'явы, нарэшце, на самога сябе. Па-народнаму мудра ацэньвае Харытон свае паводзіны ў канцы камедыі: "Буду сабе часта браць на розум філасофскую прыпавесць: на тое бог даў людзям язык, каб умець маўчаць".

Сам жанр фарса-вадэвіля не прадугледжвае сатырычнага адлюстравання рэчаіснасці. Паходжанне фарса ідзе ад свецкіх уставак (інтэрмедый) народна-жанглёрскага тэатра Францыі. Дарэчы, камічныя ўстаўкі былі ў большасці школьных драм, пастаўленых на сцэнах Беларусі ў XVI—XVII стст. Для вадэвіля ж наогул характэрны вясёлыя, легкадумныя песні, прыпеўкі. Няма сумніву, што асноўнай крыніцай, якая жывіла стварэнне "Пінскай шляхты", была народная культура — вясельныя і жартоўныя песні, прыпеўкі, народны тэатр, прыказкі, прымаўкі, прасякнутыя карнавальна-гратэскавым бачаннем свету.

У "Пінскай шляхце" драматург з поспехам выкарыстоўвае прыёмы этнаграфічнага паходжання: народную лаянку, алюзіі на біблейскія матывы. Такімі прыёмамі аўтар у лепшых традыцыях народнага смеху карнавальнага тыпу характарызуе некаторых прадстаўнікоў пінскай шляхты: Ціхона Пратасавіцкага з яго дарэчы і недарэчы брыдкаслоўем "хрэн табе ў вочы", яго жонку Куліну з пастаянным прыгаворваннем "бойся бога". Але нельга на гэтай падставе рабіць шырокія абагульненні, высновы ў дачыненні да шляхты, што такім чынам Дунін-Марцінкевіч хацеў паказаць яе абмежаванасць, невуцтва, палітычную блізарукасць. Аўтар выкарыстоўвае вышэйзгаданыя прыёмы хутчэй як сродак камічнай індывідуалізацыі персанажаў. Прыгадаем, што мова іншага прадстаўніка шляхты — Куторгі, аздобленая народнымі выразамі, — узор высокамастацкай тагачаснай літаратурнай мовы. Такім чынам, тэзіс аб сатырычным адмаўленні В. Дуніным-Марцінкевічам шляхты як сацыяльнай групы, што вымушана сысці з гістарычнай арэны, у святле нашых разважанняў з'яўляецца спрэчным, калі не памылковым.

**Міхась ЯНІЦКІ**

# І АДБЫЛОСЯ, І ЎДАЛОСЯ

Калі краіна ушаноўвае
Сваіх славутых песняроў,
Яна і памяць уратоўвае,
Яна і праўду умацоўвае,
І справядлівасць для вякоў.

Такімі словамі Давіда Сімановіча пачалося літаратурнае свята, прысвечанае 66-м угодкам з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце.

Рэктар акадэмік В. Вінаградаў павіншаваў прысутных са святам, выказаў пажаданне, каб яно штогод пачыналася менавіта ў БДУ і каб літаратары былі тут заўсёды жаданымі гасцямі. Віктар Ніканавіч пад апладысменты паведаміў, што кіраўніцтва універсітэта зацвердзіла прэмію імя У. Караткевіча для лепшага з лепшых студэнтаў. Сёлета лаўрэатам яе стаў студэнт 5-га курса факультэта беларускай філалогіі і гісторыі Аляксандр Усовіч.

У адкрыцці Дня літаратуры, прысвечанага У. Караткевічу, бралі ўдзел сакратар Віцебскага абласнога аддзялення СБП А. Салтук, паэты і празаікі Б. Беляжэнка, Ф. Сіўко, У. Папковіч, А. Канапелька, В. Русілка, маладая паэтэса, студэнтка Л. Сіманёнак, а таксама віцебскі мастак В. Ральцэвіч, які добра ведаў слыннага земляка і вучыўся разам з ім у аршанскай школе N 1.

Да помніка Уладзіміру Караткевічу ў Віцебску леглі кветкі.

Паэтычнае свята працягвалася, перамясціўшыся на Аршаншчыну — радзіму Уладзіміра Сямёнавіча. Пісьменнікі выступілі ў 3-й СШ, дзе вучыўся будучы выдатны майстар слова і дзе сёння яго музей, у педагагічным каледжы, філіяле камерцыйнага інстытута. І тут рознакалёрыя гваздзікі як бы ажывілі помнік земляку.

А на літаратурна-музычнай вечарыне ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна таксама гучалі вершы ўперамешку з песнямі, дарыліся кніжкі з аўтографамі, казаліся словы любві і пашаны да Караткевіча.

Лейтматывам свята сталі словы Алега Салтука з яго верша, прысвечанага памяці У. Караткевіча.

Ты ляжыш пасярод зямлі.
І вярба, і чазенія ў скрусе.
БЫЎ.
ЁСЦЬ.
БУДУ.
Не будзем калі,
Значыць Бог уцячэ
з Беларусі.

Чынны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні свята бралі ўдзел аддзелы культуры Віцебскага і Аршанскага гарвыканкамаў, ВДУ, музей у Оршы "Нашы славутыя землякі" і Віцебскае аддзяленне фонду Сораса.

І. ЗІМІН

# "ПЕРШАЦВЕТ", N 10

Апавяданнем С. Фраловай "Споведзь дэмана" нумар адкрываецца, пародыяй Я. Малеца "У час натхнення" на Л. Паўлікаву — завяршаецца... А паміж гэтымі творамі, як заўсёды, матэрыялы цікавыя, значныя. І найперш тыя, з якімі выступаюць маладыя аўтары, шукаючы сваю сцяжыну ў літаратуры. Ёсць мажлівасць пазнаёміцца з празаічнымі творамі А. Латышэвіча, П. Варахобіна, Н. Ніканчук, Т. Леўшуновай. Паэзія прадстаўлена імёнамі М. Сенькаўца, В. Савуцінай, В. Сідаровіч, У. Літвіна, М. Іллюкевіч, Л. Каркоткі, В. Слінко, В. Скакуна, А. Багданавай.

У "Гасцёўні" выступаюць Н. Гальпяровіч (вершы), А. Пухаеў (вершы, перакладзеныя з асецінскай мовы Ю. Свіркам), М. Віж (апавяданне "Капліца").

В. Рагойша запрашае на свой "Семінар". У артыкуле "Начаткі строфікі" прыадкрываюцца асобныя сакрэты вершаскладання.

Багаты на матэрыялы раздзел "Крытыка". А. Петрушкевіч ("Я заграла б смехам кветак...") па-свойму прачытвае творчасць Цёткі. Я. Конеў ("Вернасць") рэцэнзуе раман І. Чыгрынава "Не ўсе мы згінем"). А. Пашкевіч ("На паўстанку тысячагоддзяў") робіць спробу прагнозу новай беларускай паэзіі. В. Жыбуль ("Чысціня крынічнае вады") аналізуе зборнік вершаў навучэнцаў школ Савецкага раёна Мінска "Родничок". А. Дылюк ("Да Бога пуцявіна") зацікавіўся пытаннем "Ахвяра Ісуса Хрыста ў творчасці Зніча".

У раздзеле "Успаміны" В. Дайліда выступае з дакументальнымі навеламі. А яшчэ замешаны "Віршаглыбы" А. Дабрадзея.





Мар'ян ДУКСА



# "НАС КЛІЧА ЗАГУБЛЕНЫ ШЛЯХ..."

•

Жывучы ён, колішні страх —
усё яшчэ ватныя ногі.
Нас кліча загублены шлях
убок з каламутнай дарогі.
Мы топімся так, як усе,
крычым, надрываючы глотку.
А плынь на каменні нясе
пустую разбітую лодку.
Наш розум нібы ў забыцці,
не цяміць, што рух небяспечны.
Нам трэба на бераг сысці,
дзе спяць нашы продкі адвечна,
салоўка пяе на кусце,
на возеры ззяе лілея,
дзе шчодрае жыта расце,
дзе лён аксамітна сінее,
дзе дыхае вольна ралля —
і веры, і радасці донар,
дзе зноўку народзіць зямля
калісьці патрачаны гонар.
Забулькае сіла ў грудзях,
узнімецца песня з-пад страху...
Тут наш абарваны працяг
з калыскай уласнага шляху.

•

Пакут тваіх кругі
абскоквай — вопыт справіш.
Хоць моцна сэрца раніш.
Свет быў і ёсць благі,
яго клянеш ці славіш.

Твой зноў пасецца век
сям-там на папялішчы.
Над вухам куля свішча.
Вось-вось — і прыйдзе здзек
і на тваё дварышча.

Цана сумлення — грош.
Кумір жа — зэк адпеты.
Пампуюць злосць газеты.
Нацэльваецца нож
на сэрца й запаветы.

Пірат паўночны — хват,
усё ён сёння зможа —
забіць і жыць прыгожа...
Чаму не спыніш гвалт,
мой справядлівы Божа?

Душа ў глухой журбе.
Любові сказ салодкі
чаму такі кароткі?
Друг другу без Цябе
перагрызём мы глоткі.

Вярні нам, Божа, страх,
даруй жа здраду нашу.
Да дна ўжо вып'ем чашу...
З усіх згрызот і звяг
мы самі варым кашу.

Хто здыміць з нашых плеч
цяжар віны і болю?
Мы самі клічам долю.
Ператварылі ў меч
Тваю, што даў нам, волю.

•

О Божа, зачыні на дзень газеты,
прымкні хоць на імгненне
ўсе друкарні,
інакш мы — ёсць пэўныя
прыкметы —
апынемся агулам у лякарні.

Усё круглеюць болей вочы нашы:
траскучыя маланкі-загалоўкі
выскокваюць
з палосаў-патранташаў,
без промаху страляюць,
як з вінтоўкі.

Адчай і боль. І вокліч адзінокі.
Бяда і гвалт — і дома, і ў Расеі...
Правадыры. Манюкі. Лжэпрарокі.
Авантурысты. Бомжы. Фарысеі.

Даляр на біржы.
Мітынгі на плошчы.
Што ў нашай торбе —
спрэчкі і падлікі...
А хочацца, каб на газетнай плошчы
скакалі ўсё-ткі сонечныя блікі.

•

Вы самі як-небудзь, вы самі
ступайце ў крывавую рэчку.
Гарматамі ці палашамі
працягвайце важную спрэчку.

Бярыце сваіх асістэнтаў —
іх многа, як рыбы ў бочцы,
вы, маршалы і прэзідэнты,
аднойчы счапіцеся ў бойцы.

Не верыце ў добрае слова,
калі ўжо такая закваска, —
свае падстаўляйце галовы
і біцеся вы, калі ласка.

Сябе вы за грудзі хапайце
у гонар адсутнасці клёку.
Вы толькі ўжо нас не чапайце,
хай будзем мы збоку прыпёку.

Заканчваць не станем узорна
ўсе вашы бяздарныя спрэчкі.
На бойню не пойдзем пакорна.
Ужо мы
не тыя авечкі.

# ХРЫСЦІЯНСКАЕ

Штодзень ад кулі да нажа
шалёна мчыцца смерць на тройцы.
Усе, хто стрэльнулі з ружжа, —
вы ўсе забойцы? Не забойцы?
І тыя, хто ішоў здалёк,
і нашыя святыні рушыў,
спакойна цiснуў на курок,
уверх падкідваючы душы?
Чыя халодная рука
над цёплым сэрцам узнялася
і хто правы гвалтаўніка
ажыццяўляў разбойна ў касе?
І тыя, хто рашаў паўстаць
і заклікаў да помсты зычна,
хто, цэлячыся з-за куста,
кагосьці клаў патрыятычна,
каму уласная бяда
была адной, адзінай мерай —
хто, стоячы наўскрай гнязда,
размахваў весела сякерай?..
Але... ніякаму мячу
я не аддам свае паклоны.
Прынізіць сёння я хачу
святыню самаабароны.
Ушанаваная, яна
заўсёды рада ўзнагародзе,
хоць ад крыві, як ад віна,
хмялее мройна ў асалодзе.
Ёй надаём геройскі сан —
як на грудзях медаль іскрыцца!..
Ах, паважаны ветэран,
табе ці ёсць чым ганарыцца?
Успамінаеш, як пад дых
ты біў германцаў і японцаў.
Няма, не можа быць святых
ні нашых, ні чужых забойцаў.
Ці варта ў стоенай журбе
узвышана бурчэць і звягаць...
Ёсць прывілея і ў цябе —
ад светлай горычы заплакаць.

•

*Памяці Сяргея НОВІКА-ПЕЮНА*

Не спадабаўся веку злому.
Ягоны шлях меў шмат этапаў —
ад дэфензівы да гестапа,
да бальшавіцкіх касталомаў.
Яго улады ўсе на допыт
цягнулі ўпарта і заўзята —
Айчыны беларускай каты
свой плённа шліфавалі вопыт.
Паэт нямілы ўсім уладам,
ён ім — нібы бяльмо на воку.
Не хоча — мо замнога клёку? —
схіліцца прад чужым загадам.
Ён сіле, як яго ні мучай,
не прыдае зусім значэння.
Ні доўгай пугай, ні пячэннем
яго чамусьці не прыручыш.
Стыхія нейкая сляпая,
нічым не стрыманая воля.
Пасеянае нават поле
па-свойму ён перакапае.
Паэт нямілы ўсім уладам,
відаць, уся загвоздка ў гэтым.
Яны заўжды бясконца рады
суд Лінча здзейсніць над паэтам.
Прыйсці з паэтам ім да згоды —
і несалідна, і няёўка...
У іхнім сейфе ёсць заўсёды
паэту куля ці вяроўка.

# БАКАВЫ ПОЗІРК

Яны ідуць —
ад зайздрасці нямеюць,
аж сэрца спатыкаецца на збой.
Удалячынь глядзець перад сабой
яны, папросту кажучы, не ўмеюць.

Ну што ім сонца дыск на небакраі!
Навокала кішыць натоўп жывы.
Іх утрапёны позірк бакавы
бы штосьці заклапочана шукае.

І раздражнёнасць,
стаўшы ачмурэннем,
народзіць гнеў на болей маладых,
увішных, спрытных,
радасных — на тых,
хто яркае накінуў апрэнне.

Ад драбязы ўсялякай навакольнай
нявечыцца іх гонар дражджавы.
Іх нездаровы позірк бакавы
хоць крышку супакоіцца
не здольны.

Фіксуе з надта пільным
інтарэсам
камашы, футры, дзягі, грабяні,
прыватных крамаў зыркія агні,
пранырлівыя "Вольвы",
"Мерседэсы".

Журбу, перамяшаную
са злосцю,
прыносіць звонку позірк бакавы.
І хочацца прыўзняць
свае правы.
І хочацца штурхнуць убок кагосьці.

•

Я восень сустракаю, як радню.
Сваячка ёй душа немаладая.
Чырвонаму халоднаму агню
я добрага надвор'я пажадаю.
Запалымней жа,
лапушысты гай.
Ах, дагарай, зялёны свет бясцэнны.
Твая пара пявучая няхай
сыходзіць, як і ўсё наўкруг,
са сцэны.
Я ўжо спакойны, як і сцяты лес,
даверан увесь чужой забаве.
Хоць сумнае жніво, ці лістарэз,
распачынае вецер неўзабаве.
Я восень урачыста не заву.
Яе ж сустрэўшы,
не нямею ў скрусе.
Схіліць, як дрэва вецце, галаву
прад бегам дзён пакорліва вучуся.

Алена ВАСІЛЕВІЧ

# ПРА ВЕЧНАЕ



## І. ДАРУЙ МНЕ, СЛУЧЧЫНА...

*Памяці Васіля ВІТКІ*

...Вярталася з Паўночных мінскіх могілак, і ўсю дарогу праводзіў і неадступна гучаў мне даўні, выпадкова прачытаны — нечаканы — надпіс на помніку, на другіх могілках.

**Даруй, Іспанія, даруй,
Што я ляжу так ад цябе далёка!**

Адкуль ён узнік там, каму належаў той шчымлівы іспанскі жаль і смутак? Ні гадоў жыцця, ні імя самога чалавека, што заснуў у чужой зямлі, у памяці маёй не засталося. Засталіся толькі радкі нязвычнай эпітафіі.

...Паступова — у дарозе — Іспанія адступала, адступала... І неўпрыкмет уяўленне малявала другую радзіму — сваю — такую ж любую і незаменную... З зялёным сяродзім залатога жытнёвага палетка чубам старога бярэзніку на пагорку. З вясёлай чарадой маладых арабін уперамежку з бярозамі і бэзам... Штогод увесну ўсыпаюць зямлю там срэбрам ландышы, квітнее і духмяна і абцяжарана хіліцца да крыжоў і помнікаў бэз, малаком-сырадоем пеняцца ад цвету арабіны... І ні на хвіліначку — з ранняй зоркі да заходу сонца — не сціхаюць у голлі, цвіркаюць і звіняць, свішчуць без стомы птушкі.

І вечны сон-спачынак здаецца там жаданым і прыветным.

...Як і кожнаму смяротнаму чалавеку, пэўна ж, і яму бачыўся ўласны зварот, калі надыдзе той непазбежны час, таксама толькі сюды, на гэтую зямлю, да сваіх бяроз і арабін. Пад тую старую бярозу на самым пагорку — увесь свет відзён навокал! — дзе спачывала ўся яго радня, яго маці з бацькам, а да іх — яшчэ даўней — бацькавы і матчыны бацькі спачывалі...

**З узгорку таго, што пагляду прыкметны
Між родных і мілых прастораў здалёк,
Як лёгка мне будзе дыхаць паветрам
Лугоў канюшынных, пшанічных палёў.
Прытулак мой ціхі...**

Такія радкі ўзнікалі, пэўна, і спеліліся ў хвіліны, калі душа Паэта заставалася і прасветлена гутарыла сам-насам з сабою.

З гадамі, з узростам, з часам утравелыя магільныя пагоркі і замшэлыя крыжы і камяні-помнікі з даўно забытымі імёнамі як быццам набывалі ўсё большы прыцягальны сэнс, бязмоўна набліжалі недасягальную таямніцу ўсяго існага. І нібыта суцяшалі...

...І сапраўды ўяўлялася яму: як аднойчы — пасля школьных урокаў — зазвіняць тут бесклапотныя дзяцінныя галасы і смех. Цэлым класам прывядзе маладзенькая прыгожая настаўніца туды сваіх вучняў, каб пацешыць Паэта кветкамі і вяночкамі, сплеценымі дзяцінымі рукамі з любай яму валошкі і рамонкаў... Напэўна ж, успомняць і раскажуць яны яму радкі яго вершаў... Ён не шкадаваў і сам пакінуў ім нямала ўцехі. У вершах сваіх і казках... Як і яны — яго любыя шчабетуны — ён і сам гэтак жа па-дзяцінаму ўмеў цешыцца і захапляцца з дабрыні і хараства свету.

У пэўным сэнсе ён быў геданістам — жыццё вабіла яго ва ўсіх сваіх шматдзейных захапляючых праявах. І тым было яму бясконца жаданае.

**Якая асалода жыць!
Знаць вартасць кожнае гадзіны.
Тым, што адкрыта, даражыць
І адкрываць за дзівам дзіва.**

**З апошніх сіл узяць рубеж,
Бясконцасці жыцця дзівіцца,
Пераканацца, што жывеш,
Што сэрца яшчэ можа біцца!**

Сэрца Паэта білася да апошняга вечара яго жыцця. Ён, мабыць, так і заснуў, праслухаўшы канцэрт высокай музыкі (музыка заўсёды была неабходная яго душы), заснуў з адчуваннем асалоды бясконцасці жыцця...

...Ён не вярнуўся на мілую радзіму, якую аддана любіў і, дзе б ні жыў-быў, марыў пра яе і складаў ёй пранікнёныя вершы.

**Будзеш ты ўсюды не разлучаны
З першымі ўспамінамі жыцця,
З ціхаю тугой па роднай Случчыне,
З шолахам альховага лісця.**

**З тою прыдарожнаю алешынай,
Што ў зацішку пры шашы шуміць...
Хіба ёсць на свеце шчасце лепшае,
Як пад небам бацькаўшчыны жыць!**

...Ён не вярнуўся да яе на вечны спачын. І таму гэтак блізка адгукваўся ў сэрцы шчымлівы іспанскі боль. Адгукваўся па-свойму...

**Даруй мне, Случчына, даруй,
Што я заснуў так ад цябе далёка...**

•

...Я не была на пахаванні Паэта. І таго дня на Паўночныя могілкі прыехала пакласці яму кветкі. Запозненыя кветкі...

...Пад вечную дамоўку патрэбны сажні ўсеўладная ўлада (і на могілках!) адмерала Паэту ў такой пустэльні, якую параўноўваць можна было хіба толькі з Сахарай. Ні лісціка, ні кусціка, ні хваінкі! Ні шматка нават цянёчку, каб злітасцівіцца над белай мудрай галавою...

Ды яшчэ ж і ў гэтай сахары месца Паэту не выпадала! Саюз пісьменнікаў кланяўся і выбіваў (!) яго ў самых непрыступных заўхозаў, што прыбралі да сваіх прагавітых лап сёння ўсю дзяржаву. І гандлююць ужо і гарадскімі могілкамі таксама. Адной рукой — выбарачна — выкрэсліваюць з мемарыяльнай "наменклатуры" імя нябожчыка, а другою напярэганкі падпісваюць уласныя прозвішчы пад некралогам. Прэстыжна — як-ніяк пісьменнік... І не адумаюцца духоўныя люмпены: іх жа ўласныя дзеці першую сваю навуку пачыналі, пэўна ж, з калыханак і казак Паэта. Па чытанках, складзеных Паэтам, пачыналі ўглядацца і пазнаваць свет.

Дзіва дзіўнае: на каго прасціраюць яны свой ілжыва-дзяржаўны імпэт? Каму — у наступным — маюцца міласціва адмерваць той жаўтапесак і тыя гіблыя балаціны, якіх з ліхвою хапіла б — хапіла! — на ўвесь іх нязводны род.

Самім жа сабе сённяшнія дзяржаўныя "землямеры-каморнікі" хціва вымяркоўваюць не інакш як вечнае панаванне і бяссмерце на бессмяротнай беларускай зямлі-пакутніцы.

Дарэмна! Дарэмна...

Бяссмерце наканавана Паэтам.

І радкам іх вершаў.

**Айчына любові, смутку і смуты,
Прадкаў самаахвярная плаха,
Ты і алтар, і крыж нашай пакуты.
Галгофа і Гараваха.**

*Васіль ВІТКА*
*"Сейбітам Случчыны"*

## 2. НАДГРОБНАЕ РЫДАННЕ...

— Уставай, Мікалай! Што гэта ты зусім ужо выбраўся дадому, брат?.. А нас яшчэ пагасцяваць пакідаеш?.. Не затрымаемся ўжо доўга і мы. Чакай нас там. У сябе дома... А хату хлопцы зладзілі. Раскошна табе будзе ў ёй... І дошкі добрыя. Добрыя! І пагабляваныя, як след, а не абы-як. Хваёвыя дошкі, як звон! Не з абы-якіх аполкаў, як старой Ганначцы, труну скідалі летась. А таксама ж, як і ты, папашчывала на гэтай зямельцы, папаломвала і спіну, і рукам таксама зроду спачыну не дала. Не дала! Ды і ногі стаптала да таго, што нічога ад тых ног нібыта і не засталося... І такую вось падзяку мела. Займела труну з аполкаў...

А ты, Мікалай, дзякаваць Богу, нічога! Вунь якім франтам выстраіўся ў дарогу! І пры гальштуку, і капялюш пры сабе, і акуляры... Каб яшчэ тваю дубальтоўку! Гэтулькі выхадзіў ты з ёю лесу і балота... Гэтулькі лісоў і зайцоў упаляваў... А качак! У хату да цябе, было, як зойдзеш, як насмажыць іх твая Вера ў печы, дык пахата — нос зрывае!.. Каюся, грэшны, я не раз зайздросціў табе: жыве ж чалавек! Маючы гаспадарку і прорву іншага рознага клопату — яшчэ ж і каля пчол здатны быў ты ўвіхацца! — раптам кінуў усё і, як пан які, пашпацыраваў сабе са стрэльбай на паляванне... Але ж у цябе да гэтага такая ўжо хэнць была!.. А рыбу лавіць — гэтага ты не ўмеў і не любіў. Хоць дарэмна! Я вось, калі буду гэтак як ты зараз, адыходзіць, дык загадаю, каб мне ў дамавіну — збоку, пад стружкі — абавязкова прыхавалі вуду... Мо часам і спатрэбіцца на тым свеце. Хто гэта ведае, што нас там чакае, які занятак... У якія вароты мяне ці другога скіруе Пятро-ключар. Каб у рай надарылася трапіць, то яно, мо, і някепска было б — вылежваўся б сабе дзе-небудзь у цяньку пад яблыняй, ды салодкімі яблычкамі-райкамі ласаваўся б. Праўда, хутка, відаць, надакучыла б. Сумота, як ні кажы, чалавеку ад працы, ды адна толькі ляжня ў цяньку ды гэтыя яблыкі. І болей нічога! Вось калі ўзяць і цябе — ты ж, брат Мікалай, на гэтых часовых нашых гасцінах, як і я сам, пакуль тут яшчэ затрымаўшыся, як ні кажы, а і чарку браў добрую... А райскія яблыкі — яны што?.. Але ж, браце, калі і ў другія вароты папхне цябе той пільны надта Пятро, то, мабыць, яшчэ меней пацешышся. Скокі скакаць на гарачай патэльні не доўга паскачаш. А як яшчэ — хто там у іх галоўны? — ды лізаць тую патэльню пякельную прымусяць? Думаеш, у іх там, як і ў нас тут, не трапіцца такіх вертыкальшчыкаў? За грахі — скажуць! А хто — нягрэшны? І як ты ўтрываеш без грэху? Вазьмі хоць і мяне самога. Укінуў у воз калгаснага бурака! Еду, а ён, халера, з добрага кормніка — ляжыць у разоры пры самай дарозе. Дык як тут размінешся? Саскочыў ды ўскінуў на воз... А тут — скуль яго толькі чэрці вынеслі — старшыня на сваёй "Ніве" насустрач!.. Спыняецца, вылазіць з машыны. І я спыняюся, вядома. З гэтым кормнікам на возе. Старшыня толькі — зірк на яго! І да мяне: "Вязі, кажа, у кантору... паказвае на бурака... І пакладзі, кажа, на мой стол... А вечарам не пазніся на агульны сход!.." Ты ж, Мікалай, добра памятаеш той сход... Бурак-кормнік ляжыць на ўрачыстым стале, я стаю пры ім збоку, як у жалобнай варце, а старшыня вядзе сход. І ты ж, Мікалай, падрываўся ад рогату з мяне на тым сходзе... Дык куды, скажы, пасля таго майго сорому скіруе мяне Пятро-ключар? У якія вароты?.. І ў цябе, брат Мікалай, усяго было за век — і грахоў, і неграхоў-хібаў... Ці я, пасуседску жывучы, не ведаю. З адной тваёю Вераю... Вунь як яна разліваецца сёння! Цяпер пазнае — як не адна ўжо да яе пазнала — што значыць застацца бабе адной без гаспадара, без мужчыны... А то ўсё мы ім кепскія!.. Але ж, кажуць, пра нябожчыкаў — альбо адно толькі добрае, альбо лепей нічога не казаць, лепей змоўчаць... Вось і я, ідучы да цябе, падбадзёрыў крыху сабе ў каморы, каб Кацярына мая не ўбачыла, каб лішняй звягі не было: "Хоць сёння прытрымай сваю мянташку. Не смяшы людзей. Дай радні паплакаць ды развітацца з нябожчыкам"... Як быццам я сам, без яе, не ведаю... Надгробнае рыданне. Паследнее цалаванне... Дык я і кажу: бывай, Мікалай! Такога ўжо суседа, як ты, больш я не дачакаюся... А калі што якое і было між намі, дык, брат, даруй! А яшчэ лепей — прысніся! Раскажы, як яно табе там будзе, каб і нам, хто тут яшчэ застаўшыся на гэтай тлумнай гасціне, ведаць і не сумнявацца: спяшацца нам туды, услед за табою, дзе ні пячалі ні ваздыхання, ці ўсё яшчэ затрымацца, забавіцца тут... Пекла яно тут то пекла, але ўсё ж зверху, а не там, дзе цябе засыплюць жоўтым пяском...

•

...Такім надгробным рыданнем праводзіў майго брата Колю сусед яго Іван.

Добрыя людзі-суседзі праводзілі цябе, Колечка. І радня, якая ацалела яшчэ за твой ужо неаглядны век — восемдзесят сем гадоў... — і радня з'ехалася. Прыехаў па тэлеграме і апошні стары сябра — з партызаншчыны яшчэ! — якім гэтак шчыра ты ганарыўся і хваліўся мне заўсёды пры стрэчы: "Мой Вася палкоўнік"... Сам то ты не выслужыўся і ні ў якія чыны не выбіўся, Коля. Ні дабра-багацця не нажыў за век... Можа, за большае набытае меў толькі тое, што трох дачок-падчарак выгадаваў. Што ніводную ніколі нават словам нядобрым не пакрыўдзіў. Таму і плакалі яны па табе, і збіралі-праводзілі ў апошнюю дарогу, як родныя дочкі.

...Каб здолеў ты, Коля, устаць! Каб здолеў выйсці са свае вечнае хаты і паглядзець, якую ўтульную сядзібу на сваіх вясковых, па-людску дагледжаных, могілках выбралі табе твае нясквапныя суседзі. Куст бэзу схіліўся ў цябе над галавою. Суцешніца-вярба плакучым голлем схілілася да ног... А за агароджай могілак — тут жа непадалёчку — нястомна кіруецца ў сваю бясконцую дарогу вясёлая Пціч.

Каб здолеў ты, Коля, устаць... Бачыцца мне, як паволі-паволі азірнуўся ты наўкола... Як абвёў самотна-замглёным позіркам мілы свет... Як коратка махнуў рукою — твой жэст, пакорліва ўсміхнуўся:

— То, можа, і нічога сабе... Няхай так і будзе.

## 3. ХАРАСТВО

•

У мае гады падлеткава-юначыя, калі я жыла яшчэ дома, існаваў у нас непахісна-вясковы эталон хараства-прыгажосці.

Дзяўчына ружовая, поўная — значыць, прыгожая.

Дзяўчына худая, "зялёнка" — значыць, няўдалая.

Я заўсёды была, колькі памятаю сябе, няўдалая.

— Лена Іванішына, — казалі на вуліцы суседкі, — ай-ей якая здатная дзеўчына! І разумная — гэтак добра вучыцца. І гэтак хораша спявае (А я спявала тады — цяпер дзіўлюся! - дзе б ні была, дзе б ні ішла, не сціхаючы...). А як пастаноўкі ў школе ставяць — таксама першая!

— А то не першая... Але няўдалая!

І гэты прысуд быў канчатковы.

— Няўжо ж — яно і праўда — няўдалая... Гляньце на Корзунаву Сашку — яны ж у адзін дзень нарадзіліся... Вось гэта хароша дзеўка дык хароша!.. Як на смятане замешаная. Кроў з малаком!

— А Лена, як націнка.

— Пачакайце, яшчэ і Лена, як добра вырасце, абгладзіцца, то і не будзе націнка.

— Можа...

...Але і праз дзесяць, і праз дваццаць год прыязджала я дадому, і суседкі зноў не заўважалі, каб я "абгладзілася"... Казалі, як і некалі, адно і тое ж:

— Нібыта хлеба яна ў вочы не бачыць — гэтакая няўдалая прыехала Лена.

(А я не хлеба, а долі ў вочы не бачыла...)

І зноў ставілі побач мяне з маёй таварышкай.

— Не параўнаеш з Корзунавай Сашай. Тая, дальбог, учора не ўлезла ў пярэднія дзверы "Масквіча"... На заднім сядзенні паехала дадому... От ужо ўдалася спраўная ды ўдалая!

. . . . .

Змяніўся свет, змяніліся людзі, а я і сама зайздрошчу і дагэтуль — цяпер ужо бабулям — у каго ружовыя, поўныя ўнучкі... Прыгожыя!

•

Адзін казаў, бо трываў і наталяўся толькі злосцю:

— Мне сорамна ісці з табою па вуліцы!

Другі казаў, бо любіў:

— Я ганаруся, як іду з табою. Мне здаецца, на цябе глядзіць увесь свет з захапленнем!

Бедныя: абое былі сляпыя...

(Працяг на стар. 12)

## ПОЛІТЭХНІЧНАЯ... СКРЫПКА

**Дзіва нейкае: у наш час, калі прафесія музыканта робіцца непрэстыжнай, калі культура і творчасць выштурхоўваюцца з жыцця нейкімі іншымі "каштоўнасцямі", тут пакланяюцца... скрыпцы! Тут — у Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Уяўляеце? Зрэшты, для тых, хто ведае народны ансамбль скрыпачоў нашага "політэха", нічога дзіўнага ў гэтым няма. Ансамбль існуе 50 гадоў, і нягледзячы на перыядычную змену студэнцкіх пакаленняў, мае сваё аблічча і традыцыі, сваю гісторыю і творчыя набыткі. Гастролі, удзел у аглядах і конкурсах самадзейных мастацкіх калектываў, адзнакі лаўрэата, званне "народнага"...**

**Днямі ў актавай зале БДПА сабраліся шматлікія сябры, прыхільнікі гэтага адметнага калектыву, дый проста цікаўныя людзі. Спраўлялі юбілей: паўстагоддзя самога ансамбля і 75-годдзе яго мастацкага кіраўніка — Рыгора Гляйхенгауза. Гадоў 20 таму ён, артыст Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларусі, быў запрошаны ў на той час Політэхнічны інстытут — даць новае жыццё скрыпічнаму ансамблю, сабраць, натхніць, заахвоціць да творчасці тых студэнтаў, якія некалі наведвалі музычную школу і ў чыіх душах не згасла "іскрынка Божая". Чалавек неардынарны, захоплены, энергічны, Рыгор Барысавіч, можна сказаць, перастварыў ансамбль, які ўжо ў хуткім часе з годнасцю прадстаўляў лірычны талент "галавастай" тэхнарскай моладзі.**

**На юбілейнай вечарыне было багата гасцей і нямала віншаванняў, афіцыйных і сяброўскіх. Мастацтвазнаўца Т. Арлова, прынамсі, згадала журналісцкія здольнасці маэстра (дарэчы, Р. Гляйхенгауз быў у свой час аглядальнікам падзей музычнага жыцця на старонках "ЛіМа"). Эстрадныя артысты Я. Паплаўская ды А. Ціхановіч, цёплым словам павітаўшы юбіляра і яго шчырую гасцінную сям'ю, паспявалі разам з усёй залай старыя добрыя песні. Скрыпачка Г. Астроўская, якая дзякуючы мастацкаму кіраўніку ансамбля "здрадзіла" Акадэміі політэхнічнай і паступіла ў Акадэмію музыкі, падаравала сваё сольнае выступленне. А "зорка" беларускай аперэты, саліст Тэатра музычнай камедыі А. Ісаеў спяваў пад чуйны акампанемент "політэхнічных" скрыпак.**

**Дарэчы, народны ансамбль скрыпачоў шчодра граў у той вечар, і яго натхнёны маэстра, у парадным фраку, з інструментам, быў і дырыжорам, і першай скрыпкай, і рэжысёрам гуку... Ад "Паланеза" К. Ельскага да "Вальса" Я. Догі, ад "Мелодыі" А. Дворжака да "Полькі-піцыката" І. Штрауса, ад "Венгерскага танца" Я. Брамса да "Адажыо" Я. Глебава — такая вось "амплітуда" музычных вобразаў, эмоцый, настраёвых нюансаў. І — дайце веры — нават капрызлівае вуха музыканта магло пацешыцца гэтай меладыйнай шчодрасцю, гэтым чыстым і суладным подыхам Творчага Натхнення...**

**С. Б.**

## ЗАБУРЛІЛА МАСТАЦКАЕ ЖЫЦЦЁ...

**Ужо не першы год Жлобінскі гісторыка-краязнаўчы музей наладжвае выставы мясцовых мастакоў. Чарговая выстава — "Залатая восень-96" — з'яднала сяброў Саюза мастакоў Беларусі Уладзіміра Ганджу, Пятра Мураўчука, а таксама мастакоў Уладзіміра Сёміна, Канстанціна Міцкевіча, Уладзіміра Прыходзькі, Сабіта Байжуменава і іншых.**

**Прыемна адзначыць, што ў адкрыцці кожнай выставы бярэ ўдзел старшыня мясцовага гарвыканкама Уладзімір Ерафееў, які апякуецца культурным асяродкам горада. На гэты раз ён апавясціў асаблівую навіну: у Жлобіне, нарэшце, з'явіцца свая карцінная галерэя. Размесціцца яна ў пакоях былога дзіцячага садка ў цэнтры горада.**

**Мікалай ШУКАНАЎ**

## БАЧЫМ "БЕРАГ"!..

**Нядаўна ў эстрадным моры паказаўся "Бераг кахання" Анжалікі Ют. Менавіта так называецца новы магнітаальбом студыі "Топ records", у які ўвайшлі дзесяць лепшых лірычных песень маладой спявачкі.**

**Прэзентацыя магнітаальбома адбылася 15 снежня ў зале "Парадыз". Акрамя Анжалікі Ют у ёй прынялі ўдзел Валеры Разанаў, Іна Афанасьева, Уладзімір Радзівілаў, браты Андрэй і Аляксей Хлястовы, іншыя артысты. У праграме прэзентацыі — шмат музычных нумароў, а таксама прызоў ад часопіса "Ушы", фірмаў "Стымарал" і "Пані Валеўска".**

**Што датычыцца магнітаальбома, то ён мае маляўнічы, адпаведны тэматыцы, укладыш. Шкада толькі, што ў ім не ўказаны аўтары песень, многія з якіх, дарэчы, спявачка напісала сама.**

**Уладзімір МАЗГО**

# РЭХА ВОСЕНЬСКІХ ПРЭМ'ЕР

Сёлетняя "Беларуская музычная восень" падаравала сталічным меламанам дзве прэм'еры.

У Зале камернай музыкі (касцёл св. Роха) упершыню на Беларусі прагучала Імша ў гонар святога Францыска Асіжскага, знакамітага італьянскага святара і аўтара шматлікіх рэлігійных тэкстаў. Ён заснаваў брацтва, якое потым стала ордэнам братоў-францысканцаў. Адмовіўшыся ад багацця, св. Францыск прысвяціў сябе пропаведзі евангельскай беднасці. Ён наведаў Іспанію, Францыю, Егіпет, Палестыну і пакінуў там сваіх паслядоўнікаў. Пабываў і на Усходзе, дзе спрабаваў распаўсюджваць хрысціянства сярод мусульман.

Цікавы факт. Асоба таксама цікавая. Знаходзячыся пад уплывам абаяльнасці Францыска, кампазітар Віктар Капыцька напісаў Імшу ў яго гонар. Безумоўна, гэта зусім не тая Імша, што ідзе падчас набажэнства ў касцёле. Гэта тэатралізаваная дзея, якая нагадвае Батлейку, толькі галоўныя персанажы не лялькі, а жывыя людзі, артысты. Хор і тры чытальнікі — гэта Францыск, яго сябра Брат Лявон і сам аўтар. (На мой погляд, пэўная персаніфікацыя такога паважанага царквой святога, як Францыск Асіжскі, можа падацца даволі рызыкоўным мерапрыемствам. Вялікая адказнасць перад увасабленнем вобраза. І перад царквой).



Выкананне, безумоўна, было высакаякаснае. І дзіўнае. Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова спяваў так, нібы дырыжор падслухаў гучанне хору XII стагоддзя — перыяду жыцця Францыска. Зала літаральна вібрыравала ад кожнага музычнага гуку. Зусім не па-камернаму, магутна гучаў хор.

Што да мяне, то я сядзеў і баяўся паварухнуцца — па-першае, з-за таго, што запісваў твор на дыктафон, а па-другое, з-за таго, што быў надзвычай здзіўлены. Я ведаю Ігара Мацюхова даўно, таксама я добра ведаю, што ён заўсёды дапамагаў спяваць партыі тэнараў у хоры хлопчыкаў ліцэя пры Акадэміі музыкі, якім ён калісьці дырыжыраваў і ў якім я некалі спяваў. Але каб маэстра сам выконваў саліруючую партыю, да таго ж, і павярнуўшыся тварам да слухачоў, — такога я не памятаю. Гэта было настолькі нечакана (ды і не толькі для мяне — уся зала застыла), што магу толькі сказаць: калі вы не чулі гэты твор, паслухайце абавязкова! Вы пазнаеце знакамітых людзей з іншага боку, як пазнаў у свой час Віктар Капыцька Францыска Асіжскага.

Не менш цікавай прэм'ерай была сімфонія аднаго з нашых самых вядомых кампазітараў Генрыха Вагнера. Вялікі шматчасткавы цыкл, напісаны для сімфанічнага аркестра і народ-

# І РАПТАМ ЗАПАНУЕ ТАЯ ЦІШЫНЯ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

папярэднікі, славутыя купалаўцы не заўважылі ў гэтай ладнай і прыгожай дэбютантцы, каб яна нешта ў сябе пераадольвала. Не было ў яе, па-цяперашняму кажучы, прыкмет адаптацыі, адзнак прыстасавання да нашага асяроддзя. Ліля аддавала сваім сцэнічным гераіням уласную шчырую ўсмешку, сваё асабістае чулае ўспрыманне чужога гора, украпляла ў ролі і тую долю ўласцівай ёй іроніі, прыхаванай насмешкі над нашай жаночай слабасцю, нашымі капрызамі і забабонамі. Праўда, больш выразна раскрывае Л. Давідовіч драматызм жаночага лёсу, больш далікатна перадае трагедыйныя адценні пачуцця.

Якраз гэта пакрысе і вызначала становішча актрысы ў трупе тэатра з пэўнымі абрысамі яе артыстычнага амплуа. Рэжысура адзначала яе творчыя поспехі ў такіх жанрава разнастайных спектаклях, як "У мяцеліцу", Л. Лявонава, "Я, бабуля, Іліко і Іларыён" Н. Думбадзе, "Канец — справе вянец" У.Шэкспіра, "Чатыры крыжы на сонцы" А. Дзялендзіка... Я сама бываю партнёрам Л. Давідовіч і там, на сцэне, бачу і адчуваю яе ўменне арганічна заглыбіцца ў характар сённяшняй сваёй гераіні. Па вачах яе. Па жывой гаворцы. Па ўсплесках тэмпераменту. І нашы самыя знакамітыя старэйшыя таварышы ігралі свае ролі ў ансамблевых зносінах з ёю.

Паўтару вядомае: ансамбль Купалаўскага гэта пэўнае мастацкае адзінства ў маляўнічай разнастайнасці, гэта дзівоснае спалучэнне яркіх індывідуальнасцей. Я не ведаю, якім чынам дасягаецца той ансамбль. Ды ці не кожны з купалаўцаў на пытанне навічка, што ж такое ансамбль у гэтым тэатры, хутчэй за ўсё спашлецца на прыклад, тэарэтызаваць не будзе. Прыгадае нашу класіку — "Апошнія" М. Горкага, "Хто смяецца апошнім" К. Крапівы, нашу фантастычна жывучую "Паўлінку". Раскажа, як на сцэне ў ладны гарманічны аркестр зліваліся таленты У. Уладамірскага і Г. Глебава, Л. Ржэцкай і І. Ждановіч, Б. Платонава і Г. Грыгоніса, Р. Кашэльнікавай і Л. Шынко... Мабыць, стварэнню акцёрскага ансамбля спрыяе не толькі наша творчае ўзаемаразуменне, не толькі трэнінг і прафесійная падрыхтоўка. Мне здаецца, што нас згуртоўвае яшчэ і некая сціплая (крый Божа, не паказная!) сімпатыя адзін да аднаго і вельмі блізкае нам усім агульнае разуменне не вызначаных дакладна асноў жыцця. Збірае нас у адно мастацкае кіраўніцтва, і тут мы не вольныя выбіраць партнёра. Але жывы ансамбль мы складаем, адчуваючы і інтуітыўна штосьці роднаснае адзін у адным. Шукаем тое на рэпетыцыях, а потым і зберагаем, бывае, усё жыццё. Вось так і Ліля натуральна ўваходзіла ў наш калектыў, каб з першых роляў нібы на ўвесь голас абвясціць, што і яна цяпер купалаўка на ўсё жыццё.

Але, я кажу пра яе незабыўна жывую, па-дзявочы трапяткую ў кожным руху душы, пяшчотную і па-зямному клапатлівую Ганну Чарнушку. Для тэатра па многіх ідэйна-мастацкіх сваіх якасцях гэты спектакль — інсцэніроўка рамана "Людзі на балоце" Івана Мележа — меў важнае значэнне. Такія ў крытыцы называюць даволі гучным тэрмінам — "маштабнае мастацкае палатно". І сапраўды ў ім сустрэліся на складаным жыццёвым сюжэце прадстаўнікі розных пакаленняў палешукоў. І акцёры — таксама: ад масціты майстроў сцэны да нядаўніх пачаткоўцаў. Маладым даваліся раскрываць сваё разуменне і адчуванне сапраўднага беларускага характару, так маляўніча паказанага пісьменнікам у рамане, побач з адмысловымі творцамі — С. Станютай, І. Шацілам, Л. Рахленкам, Р. Кашэльнікавай, У. Дзядзюшкам, В. Полай, П. Пекурам... І вельмі кранальны і такі праўдзівы, што часам здавалася, быццам Л. Давідовіч і Г. Гарбук іграюць "самі сябе", дуэт — Ганууся і Васіль Дзятлік! Наўрад ці варта пераказваць, што і як рабілі на сцэне яны — поспех быў агульнапрызнаны. Хачу па-акцёрску падкрэсліць, што якраз Ганна Чарнушка ўвабрала ў сябе самыя глыбокія эмацыянальныя фарбы актрысы Л. Давідовіч і нібы зрабілася яшчэ і творчым абяцаннем новых яе трагедыйных узлётаў. Як кажуць, яна не адно толькі артыстычна раскрыла душу гераіні, а яшчэ і далучала тэатр да сваіх магчымасцяў, якія будуць пазней раскрыты ёю ў творах класічнай драматургіі.

У ролях накшталт тае камсамолкі, якая робіцца сакратаром райкома, актрыса напрактыкавалася раскрываць светлыя парыванні і чыстыя задумы маладой асобы. І вось рэжысёр Ц. Кандрашоў даручае ёй ролю, як мы ў закуліссі кажам, — тарасоўскую. Была такая бліскучая гераіня ў мхатаўскай трупе, кумір нашай маладосці, Ала Канстанцінаўна Тарасава.

Хто яна, гэтая Юлія Тугіна ў драме А. Астроўскага "Апошняя ахвяра"?

Маладая багатая купчыха. Зазнала не толькі сталічны шык, але і далучылася да еўрапейскай моды, густу, нораваў. Тут рэжысура і мастак прапанавалі Л. Давідовіч і вытанчана пашытыя з дарагіх тканін строі, і дзівосны капялюш, і доўгія пальчаткі, і ўсё гэта вымагала ад актрысы пэўнай манеры паводзін, руху, жэсту. І ў моўную плынь дыялогаў уносіла сваю мелодыю і новыя акцэнты. Калі для Л. Рахленкі роля Флора Прыбыткова была не надта новай, дык Ліля сумесна з чулым і тактоўным Ціханам Аляксеевічам Кандрашовым па-творчы ўзнімалася на раней незнаёмую ёй артыстычную вяршыню.

Я сама адчула, дарэчы, ветлівую і вельмі ўладарную руку гэтага рэжысёра, іграючы ролю Глафіры Фірсаўны ў тым спектаклі. І хоць была захоплена сваімі акцёрскімі задачамі, шчыра скажу, любавалася мастацкімі знаходкамі і адточаным майстэрствам, з якімі выконвалі свае ролі мае таленавітыя партнёры — Віця Тарасаў (Вадзім Дульчын), Лёня Крук (Лука Дзергачоў), Галя Талкачова (Ірына Прыбыткова). Але рэжысёр зрабіў спектакль нібы гімнам пакутліваму лёсу закаханай жанчыны. І ў цэнтры яго быў псіхалагічна ўражлівы дуэт Юліі і Флора Фядулыча.

За які год перад "Апошняй ахвярай" Л. Давідовіч таксама выпрабоўвала сябе ў класічнай п'есе "На дне" М. Горкага. І яе Насцёнка, якая бегае на рог Малой Броннай, каб звабіць там багатага кліента і потым атрымання за прадажныя пяшчоты грошы патрацідь на свайго шалапутнага баламута Барона, абуджала і спачуванне, і сімпатыю. Ліля здолела так запаліцца Насцінай прагай да сапраўды чыстага кахання, што і пустыя балачкі-байкі пра нібыта сустрэтых ёю высакародных Рауля ды Гастона гучалі па-жаночы непазбыўным летуценнем пра сваё прывідна-нязбытнае шчасце. Паўставала і вартая жалю заняпалая кабетка, і скалечаная злыбядой цнатлівая душа, і не пазбаўленая канчаткова волі да збавення адметная асоба — Насця. Калі Барон В. Тарасава збянтэжана казаў: "Усё ж ткі яна... яна..", гэта гучала якраз прызнаннем у Лілінай гераіні хай сабе і апошнялай, але чалавечнасці.

Ад маладзенькай жрыцы прадажных пяшчот, гэтай начлежнай гаротніцы, актрысе

нага хору. Мне, як кампазітару, заўсёды цікава прысутнічаць на музычных прэм'ерах, асабліва, калі гэта творы маіх настаўнікаў ці людзей, якіх я проста паважаю. Генрых Матусавіч Вагнер менавіта з такіх людзей.

Я даволі добра ведаю ягоную музыку і хачу адзначыць адну яе рысу, можа, самую галоўную. Ведаеце, даволі рэдка бывае, каб сучасны кампазітар так добра ўмеў працаваць з фальклорам. Гэта вельмі цяжкая задача — так выкарыстаць матэрыял, каб ён не страціў сваёй непаўторнасці і самабытнасці, каб яго маглі пазнаць, але каб ён асабліва не выдзяляўся з агульнай "тканіны" і твор не выглядаў бы эклектычным без патрэбы.

Новая, 4-я сімфонія — прыклад менавіта такога твора. Выдатная інструментоўка, гучанне хору проста ўзносілі асноўны лейтматыў — песню "Люблю мой край, старонку гэту". Такое характэрнае, амаль аўтэнтычнае выкарыстоўванне народных песень уласцівае творчасці толькі таго кампазітара, які адчуў сам сэнс фальклору сваёй душой, сваім сэрцам. Свежасці першага выканання спрыяла і тое, што ігралі студэнты — аркестр Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам самога рэктара, Міхала Казінца. Мне здавалася, што яны ўспрымалі музыку як жывы, непаўторны момант гукатворчасці. Яны яшчэ маладыя, яшчэ не сталіся, і музыка ў іх выкананні ўспрымаецца неяк асабліва.

Толькі новыя творы нашых кампазітараў гэты калектыў выконвае вельмі рэдка. На жаль. Бо і ёсць што, і добра можа.

**Георгій САСНОЎСКІ**

•

**Адметнай падзеяй "Беларускай музычнай восені" сталася святкаванне 75-годдзя народнага артыста СССР прафесара Віктара РОЎДЫ. Наш фотакарэспандэнт А. МАЦЮШ заспеў маэстра ў кульмінацыйную хвіліну юбілейных урачыстасцей.**

наканавана было амаль адразу пераўвасабляцца ў жанчыну, якая звыкла купацца ў раскошы і можа прывабіць да сябе і спакусіць, здавалася б, вырабаванага сэрцаеда, спешчанага парыжскімі прыгодамі... Толькі што актрыса старалася зразумець і ўвасобіць рэжысёрскую задуму Б. Эрына і вось без перапынку бяры цяпер пад увагу не менш складаны ход рэжысёрскіх разважанняў пра веліч і слабасць жаночай душы ўжо Ц. Кандрашова. Так, Ліля ўмее пастаяць за сябе і на рэпетыцыях часам з дапытлівасцю следчага спрачаецца з рэжысёрам, але наша доля такая — зразумей, спасцігні не адно галавой, а пачуццёва трактоўку адвечных праблем вось гэтым пастаноўшчыкам п'есы, гэтай рэжысёрскай індывідуальнасцю. Інакш наўрад ці што атрымаецца ў цябе з той жа Насці альбо Юліі Тугінай.

Мушу засведчыць, Ліля творча працуе з рэжысурай і таму радуе гледача плённымі адкрыццямі новых характараў. Будзе гэта старшыня гарсавета ў пасляваенным горадзе ці першая дама горада Мардасава часоў Дастаеўскага. Знешне пакорлівая прыгажуня Шафак, якая знаходзіць сілы для самаахвярнага ўчынку ў супрацьстаянні законам шарыяту ("У ноч зацьмення месяца" башкіра М. Карыма) або шэкспіраўскай маляўнічасці Дзіяна. Сялянка з забытых Богам Верамеек ("Плач перапёлкі" І. Чыгрынава) ці агніста бойкая Уршуля, жонка Выкрутача ("Ідылія" В. Дуніна-Марцінкевіча), або дзіўна ганарыстая і адначасова лагодная Марыя Аляксандраўна Ульянава, маці бунтарскіх сыноў Сашы і Валодзі. Бездакорна элегантная і таямніча страсная скандынаўская паўночніца Эліда ў драме "Жанчына з мора" Г. Ібсена або зласлівая вясковая зайздросніца Дар'я ў "Мікітавым лапці" М. Чарота.

Дарэчы, Дар'ю мы з ёю іграем па чарзе. І ў "Паўлінку" яна нядаўна ўвайшла на тую ж ролю, якую мне перадавалі ад В. Полы і Г. Макаравай — Агата Пустарэвіч. Ведаю на ўласнай скуры, як гэта даецца балюча і нялёгка — пераход ад маладых гераіняў да камедыйных кабет, не зусім маладых. І ў гэтай прафесійнай неабходнасці Ліля знаходзіць творчае натхненне. Па-ранейшаму рухавая і пластычная, галасістая і тэмпераментная, яна ўжо з новымі ў нашым тэатры рэжысёрамі шукае сучасную трактоўку адвечных жаночых хваляванняў. І вось, бывае, сёння актрыса Л. Давідовіч блісне сваімі ўсмешлівымі вачамі, спытае нештачка хітравата здзіўлена ў мэтра, які ўзначальвае рэпетыцыйны працэс, — і раптам запануе тая цішыня, падобная на школьную падчас дыктанта, і штосьці нечаканае і зваблівае прыадкрыецца ў сцэнічным вобразе, які неўзабаве паўстане перад гледачамі ў святле рампы Купалаўскага.

**Алена РЫНКОВІЧ,**
**заслужаная артыстка Беларусі**

Фестывалі

***Кіналістапад выпаў як звычайна — на апошні восеньскі тыдзень. Без сентыментальных усхліпаў аб стане постсавецкага кіно. Без сумніцельнага дэвізу 1994 года — "нашы прыйшлі". Без буйных "зорак" і без выбітных фільмаў.***

***Хроніка фестывалю ўвасобілася ў пункцірную лінію штодзённых "за" і "супраць". Кожны вечар экран быў прадастаўлены дзвюм стужкам, і гэтыя кіназлучэнні мелі сваю ўнутраную іерархію: так бы мовіць, фільм-лідэр і фільм-дадатак. У сціплых межах гэтага параўнання апынуліся ўсе карціны "Лістапада-96".***

# ІЛЮЗІЯ КІНО

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ. ПРЫБЫЦЦЁ ЦЯГНІКА.

Кароткая, у некалькі секунд, стужка братоў Люм'ер "Прыбыццё цягніка на станцыю Ля Сіета" (1895) зрабілася першым раздзелам гісторыі кіно. Яе новы том паспрабавалі распачаць чатыры расійскія рэжысёры. Пад агульнай назвай "Прыбыццё цягніка" (1995) аўтары прапанавалі чатыры варыяцыі на тэму кіно, а дакладней — ці будзе ў яго другое стагоддзе?

Больш удалай і паводле эстэтыкі, і па сэнсе здалася навела "Трафім" (рэж. А. Балабанаў). Аўтары абыгралі дзве ўзаемазваротныя якасці кінамастацтва; ігравую стылізацыю жыцця (рукатворную рэчаіснасць) і дакументальную прыроду яе адлюстравання.

...На пачатку стагоддзя рускі мужык Трафім (С. Макавецкі) прыязджае ў Пецярбург з глыбіні свайго правінцыйнага жыцця, з якім ён паконччыў... сякерай. Забіўшы брата, разлічыўся і з жонкай-адступніцай, і з уласным лёсам. На пероне яму трапляецца французскі кінаапаратар, што здымае прыбыццё цягніка. Трафім са здзіўленнем зазірае проста ў аб'ектыў ды выпраўляецца бадзяцца па вуліцах. Беспрытульнае блуканне героя па горадзе канчаецца арыштам. Тут аўтары навелы раптоўна надаюць сваёй выдумцы статус хронікі. 14 метраў кінастужкі, быццам адзнятай на вакзале французскім аператарам, набываюць якасці непаўторнага дакументу часу і павінны папоўніць каталог фільмаў з выявамі піцерскіх вакзалаў. Толькі вось прыкрая недарэчнасць — твар нейкага барадатага мужыка (а мы ведаем: Трафім) перакрывае архітэктурны ансамбль. І рэжысёр рашуча адсякае на мантажным стале непрыдатныя кадры. На экране застаецца кіназамалёўка аднаго з піцерскіх вакзалаў пачатку XX стагоддзя. Кошык для смецця прымае яшчэ адзін шматок кінастужкі. А за кадрам апынулася самае істотнае — сутнасць выслізнула з рук мастака... Аказваецца, што кіно, свабодна апераруючы вонкавымі прыкметамі рэчаіснасці (рух, час, прастора), за сто гадоў ні на крок не наблізілася да знікаючай існасці!..

Аўтары другой навелы, "Экзерсіс N 5" (рэж. Д. Месхіеў), быццам скарыўшыся гэтай думцы, вяртаюцца на пазіцыю пасіўнага адлюстравання. Кінакамера механічна рэгіструе ўсё, што трапляе ёй "на вока" з жыцця здымачнай групы. Набыўшы своеасаблівую аўтаномію, апарат фіксуе... паветра, падмяняючы сабой аператара, рэжысёра, акцёра. Адсюль — нязвыклыя ракурсы, антыкампазіцыя кадраў, квазітрэвэлінг, псеўдадыялогі. Практыкаванне ў духу Ж.-Л. Гадара Ю. Месхіеў выканаў даволі паспяхова. Іншай мэты, як відаць з назвы, аўтары і не ставілі.

Рэжысёр А. Хван у сваёй навеле "Вясельны марш" імкнуўся вырашыць больш складаную задачу: спалучыць на раўнапраўнай аснове ілюзію і рэчаіснасць, кіно і жыццё, фантазію і факт. Яму ўдалося знішчыць мяжу паміж гэтымі супрацьлегласцямі, але бракавала шчырага захаплення падобнай гульнёй.

Назва апошняй навелы — "Дарога" — нездарма паўтарае тытул знакамітага фільма Ф. Феліні. Рэжысёр У. Хаціненка стварае дуэт персанажаў як адбітак з класічнай кінапары цыркачоў-вандроўнікаў — Джэльсаміны ды Дзампана. Прычым жаночыя тыпы ў абодвух варыянтах грунтуюцца на прыроднай (аўтэнтычнай) маральнасці. А мужчынскія — увасабляюць рацыянальную сілу, дакладней — выратавальную ілюзію дабрадзейнай разважлівасці.

Парафразы класічных экранных тэкстаў ("Дарога" Ф. Феліні, "Паліты палівальшчык" Люмьераў), на жаль, не надаюць прываблівай лёгкасці, гуллівасці "кінаспробе" У. Хаціненкі. Вытанчанае самапарадзіраванне кіно тут вельмі хутка падмяняецца грубым шаржаваннем сучаснасці.

## ДЗЕНЬ ДРУГІ. ПАНЕНКА-СЯЛЯНКА.

Фільм А. Сахарава "Паненка-сялянка" (1995) — экранізацыя аднайменнай аповесці Пушкіна. Даволі кароткі літаратурны тэкст атрымаў двухгадзінную экранную інтэрпрэтацыю ў жанры ідыліі. Душачка-паненка, добры ды палкі малады барын, іх тайныя спатканні на фоне непрыязнасці бацькоў-памешчыкаў: заходніка Мурамскага ды славянафіла Берастава, — і шмат іншых матываў, якія складаюць празрыстую драматургічную канструкцыю фільма. Прыгожыя твары, чыстыя думкі, шчырыя пачуцці. Бестурботнае жыццё на ўлонні прыроды без драматычнага напалу жарсцяў, без трагічнага супрацьстаяння, без марных пошукаў сэнсу быцця. Добрая казка са шчаслівым фіналам.

Прырода фільма "Паненка-сялянка" кшталту лёгкага павуціння, што калышацца ад подыху цёплага ветрыку ды сціпла іскрыцца сваімі танюткімі ніткамі. Цёплая атмасфера, мяккі гумар, гармонія дачыненняў.

Стылістычнае адзінства карціны А. Сахарава надае ёй трывалую мастацкую аснову. Сюжэт, адлюстраванне, мантаж, выканаўцы падпарадкаваныя асноўнай жанравай умоўнасці: "наслаждения невинности" (А. С. Пушкін). Актрыса А. Корыкава ў ролі Лізаветы-Акуліны праецыруе ўласны тэмперамент на вобраз паненкі-сялянкі. Юная, жвавая, яна быццам лунае ў паветры.

Зачараванасць святлом, прыгажосцю, чысцінёй аўтары кінастужкі рэтранслююць гледачу. І публіка (перадусім моладзь) з замілаваннем успрыняла пастаральную танальнасць фільма.

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ. КАЎКАЗСКІ ПАЛОННІК.

Прыкметнай з'явай фестывалю стаў фільм С. Бадрова "Каўказскі палоннік" (1996). Па-першае — тэма: чарговая вайна на Каўказе. Па-другое, — выбітны акцёр А. Меньшыкаў, вядомы гледачу па карціне Н. Міхалкова "Стомленые сонцам". Па-трэцяе, — рэжысёр С. Бадроў, які ў сваіх стужках імкнецца агаліць балючы нерв сучаснасці.

Схапіўшыся за "гарачую" праблему, С. Бадроў паспрабаваў утрымаць сваіх герояў на мяжы чалавечай трываласці. Стыхійная прырода вайны з яе агрэсіяй, нянавісцю і фатальным адчуваннем варожасці ўсіх ды ўсяго хаваецца недзе ў заэкранні. А ў кадры — толькі анамалія рэчаіснасці ды бездапаможны безабаронны чалавек. І матчын боль, і бацькаў гонар, і розум, і любоў адступаюць перад цынічнай альтэрнатывай вайны: ілюзія жыцця ці ілюзія смерці. Іншага не дадзена.

У асноўным акцёрскім дуэце, безумоўна, саліруе А. Меньшыкаў. С. Бадроўмалодшы толькі тыпажна адцяняе эмацыйную і пластычную экспрэсію свайго партнёра, які часам выклікае сентыментальную тугу, часам — атрак-цыённую захопленасць.

Дарэчы, рэжысёр абапіраецца на "мантаж атракцыёнаў" паводле С. Эйзенштэйна. Некалькі выразных мантажных секвенцый (напрыклад, размініраванне поля; спроба ўцёкаў) надаюць імпульсы карціне, маскіруючы перарывістасць (дыскрэтнасць) яе сюжэта.

## ДЗЕНЬ ЧАЦВЁРТЫ. КАНЦЭРТ ДЛЯ ПАЦУКА.

А. Кавалаў прадставіў на "Лістапад-96" сваю трэцюю і адначасова першую — пастановачную — карціну "Канцэрт для пацука" (1995). Кіназнаўца А. Кавалаў увайшоў у рэжысуру як стваральнік мантажных фільмаў. Спалучаючы эпізоды хронікі, анімацыі, ігравых і навукова-папулярных стужак розных часоў, аўтар ствараў экранныя калажы. У сваёй новай карціне рэжысёр ускладняе мастацкую задачу, сачыняючы паэтычную фантазію на тэмы 1939 г.

Малады паэт у чорным паліто — цэнтральны вобраз фільма — жыве ў абдымку з таталітарнай эпохай. Адтапырваюцца вушы дзвярэй Вялікай Камунальнай Кватэры падчас тэлефоннай размовы. Ветліва-маўклівы сябра крочыць туманным ранкам да чорнага варанка, што стаіўся ў тумане скрыжавання...

Кіно у А. Кавалава здавольваецца ўласным мастацкім досведам, пераасэнсоўвае, пераапрацоўвае яго. Рэжысёр-кіназнаўца, ведаючы эстэтычныя праграмы разнастайных мастацкіх плыняў, імкнецца стварыць кіно з... кіно. Выяўленчая стылістыка фільма "Канцэрта..." выклікае з памяці нямецкі экспрэсіянізм. Рэзкія вострыя ракурсы дэфармуюць прастору і твары. Халодна-пустэльныя пакоі, надзвычай выцягнутыя (як па камандзе "зважай") дзвары, вуліцы ўвасабляюць свет і свядомасць, якія небяспечна станчыліся. Чорна-белае адлюстраванне, чорны гумар, чорны сэнс...

Сімволіка-метафарычныя рашэнні надаюць кінатвору А. Кавалава мазаічны характар. Матэрыял, вельмі аб'ёмісты сам па сабе, "набрыньвае" ў цісках хранаметражу, паступова абцяжарваецца і ўрэшце вызваляецца ад самога стваральніка. Да фіналу аўтар губляе моц ім, матэрыялам, кіраваць, а глядач — яго ўспрымаць...

## ДЗЕНЬ КАФКІЯНСКІ, ДЗЕНЬ АПОШНІ.

"Спявачка Жазэфіна і мышыны народ" (1994) прымусілі публіку збянтэжыцца, а крытыкаў — разгладзіцца. Аўтар украінскага фільма С. Маслабойшчыкаў прапанаваў дакументальны рэпартаж з прыдуманага свету, а калі дакладней — сваё адчуванне Ф. Кафкі.

Свет — тэатр. У тэатры — антракт, які расцягваецца да памераў поўнаметражнай карціны. Паўнюткія ложы: твары, твары... Паўнюткі партэр: кушэткі, раскладанкі, матрацы... Пустая адзінокая сцэна — Жазэфіна страціла голас. А ці быў ён у яе?.. Публіка чакае, сумуе, адпачывае, забаўляецца, нервуецца, разважае, раскідвае смецце, трыумфуе, лямантуе. Усё гойдаецца, усё кіпіць.

Кадр гранічна загружаны дзесяткамі статыстаў, палова з якіх — дзеці. Гукавая прастора фільма запоўнена беспярапынным гулам. Здаецца, што экран лясне пад гэтым дзікім націскам. Каласальная напружанасць акцёраў, апаратара, рэжысёра хаваюць пустку. Zero. Дзеля чаго такія высілкі? Дзеля працэсу. Бо канцовая мэта — нішто. Ці не ў гэтым паэтыка Кафкі? І ці не таму стужка доўжыцца паўтары гадзіны (а не 30 хвілін, напрыклад), каб прымусіць адчуць на інтуітыўным або падсвядомым узроўні абсурднасць жыцця ды хісткасць усіх мастацка-філасофскіх канцэпцый?..

Відавочна, аўтары большасці прадстаўленых карцін імкнуцца трапіць у кантэкст сусветнага кіно. Або ўштукавацца. Адны дзеля гэтага выбіраюць просты шлях — сумесную кінавытворчасць ("З пекла ў пекла", "1001 рэцэпт закаханага кухара"). Іншыя, усвядоміўшы абмежаванасць вопыту савецкага кіно, спрабуюць мысліць мадэрнісцкімі катэгорыямі, ускідаючы на сябе філасофска-эстэтычныя меркі разнастайных мастацкіх плыняў. Вядома, вольнаму воля. Але, як той казаў, "поезд ушёл, господа".

А кіно? Кіно засталося... на іншым баку.

**Наталля АГАФОНАВА**

Сустрэчы

# "КУЛЬТУРА — ДАМА ГОРДАЯ..."

**Абмеркаваць свае праблемы і намеціць накірункі развіцця сабраліся кіраўнікі самадзейных тэатральных калектываў Гомельшчыны. Іх у вобласці даволі шмат, а 20-ці нададзена званне народных. За бягучы год пацвердзілі сваё званне Ельскі, Веткаўскі і іншыя тэатры, сярод прэтэндэнтаў на яго — Мазырскі эстрадны. На рэспубліканскім фестывалі ў Баранавічах (1995 г.) няблага выступілі самадзейныя артысты Пінска, Рагачова і Драгічына.**

На сённяшні дзень даволі востра паўстала пытанне рэпертуару, асабліва рэпертуару нацыянальнага. Прайшлі тыя часы, калі адна песня пра радзіму ці адна п'еса рассылаліся па ўсім Савецкім Саюзе, калі браўся курс на нівеліроўку. Зараз кожны калектыў для творчага выяўлення хацеў бы знайсці такі літаратурны матэрыял, які найбольш адпавядаў бы і яго ментальнасці, і магчымасцям, і зацікаўленням. На жаль, такога матэрыялу не хапае. Даўно перабраны-пералапачаны ўвесь класічны рэпертуар, з тэатра ў тэатр пераходзяць усё тыя ж "Мікітаў лапаць" ды "Прымакі". З некалькіх зборнікаў сучаснай драматургіі, выпушчаных па лініі Міністэрства культуры Беларусі, на руках аказаўся толькі самы новы, "Сінязорка" — настольная кніга, як пажартаваў адзін рэжысёр. Гучалі скаргі на недахоп беларускіх п'ес, была выказана думка, што толькі сённяшняе актуальнае слова можа ажывіць наш тэатр — як самадзейны, так і прафесійны.

Разам з тым ёсць прыкметная цікавасць да творчасці Ф. Аляхновіча, якая доўгі час была забаронена для пастановак. І хоць табу з яе знята, але п'ес гэтага папулярнага ў 20-я гады аўтара не знайсці.

У плане азнаямлення з навінкамі супрацоўніца абласной бібліятэкі І. Жыжэнка прачытала цэлую лекцыю па савецкай драматургіі — ад вытворчай да так званай новай драмы. Разам з "Юнобсцю" яна захапіла і "Полымя", дзе за апошні час надрукавана шэраг п'ес. На жаль, ні "Мастацтва", ні "Тэатральная творчасць" не ўпаміналіся падчас гаворкі. Гэта можа сведчыць як пра недахоп рэкламы гэтых часопісаў, так і пра іх няўвагу да народных калектываў рэспублікі.

Як высветлілася, у абласныя цэнтры народнай творчасці, а тым больш у раёны практычна не паступае зборнік "Беларуская драматургія", што складаецца і выдаецца па лініі рэпертуарнай калегіі Міністэрства культуры. Адпаведны орган Упраўлення устаноў культуры і народнай творчасці разам з кадравай адзінкай не так даўно зліквідаваны, так што справа фарміравання рэпертуару, падобна, пушчана на самацёк. Па меры сіл і здольнасцей ёй займаюцца супрацоўнікі абласных цэнтраў народнай творчасці. І то не ў працоўны час, як прызналася арганізатар мерапрыемства Аксана П'янкова.

Вось што сказаў па гэтай праблеме начальнік Упраўлення устаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэцкі.

— Рэпертуарны голад у пэўнай ступені існаваў заўсёды, і гэта, лічу, нармальна. Попыт павінен хоць трошкі апярэджваць прапанову, інакш не будзе руху, развіцця. На сённяшні дзень у нас няма ні спецыяльнага падраздзялення, ні спецыяліста, які б займаўся рэпертуарам. У хуткім часе мы выйдзем з прапановай аб стварэнні калегіі на базе Інстытута праблем культуры. Там жа адкрыецца і выдавецтва па выданні метадычнай літаратуры. Міністэрства, вядома ж, таксама не застанецца ўбаку ад гэтай справы, сярод нашых абавязкаў — работа з аўтарамі, набыццё драматычных твораў, дзяржзаказ, правядзенне конкурсаў і фестываляў. Уплываць на рэпертуар, стымуляваць аўтараў (а не кантраляваць, як раней) — такі наш сённяшні падыход. Калі міністэрства праводзіць, напрыклад, фестываль, які прысвечаны Галубку, і народныя тэатры звяртаюцца да яго драматургіі — хіба гэта не стымуляцыя творчасці? Часы адміністравання, навязвання рэпертуару прайшлі, наша задача — даць магчымасць выбару. Шмат гадоў мы складалі і дасылалі на вобласці зборнікі п'ес, але эфектыўнай такую сістэму не назавеш: гэтыя зборнікі асядалі ў бібліятэках і метадычных цэнтрах мёртвым грузам. Дарэчы, пры кожным цэнтры існуюць рэпертуарныя бібліятэчкі. Пры жаданні рэжысёры могуць звяртацца туды. Галоўнае, каб была ініцыятыва знізу, каб была патрэба шукаць і знаходзіць. Без агульнай зацікаўленасці нават самая добрая сістэма не дасць плёну...

На творчай лабараторыі была адзначана такая ўдалая форма работы з рэжысёрамі, як штогадовыя курсы павышэння кваліфікацыі (на базе ўжо згаданага Інстытута праблем культуры). Іх удзельнікі, акрамя ўсяго іншага, маюць магчымасць праглядзець увесь бягучы рэпертуар прафесійнай сталічнай сцэны, што не лішне для жыхароў "глыбінкі".

На пасяджэнні запланаваны такія мерапрыемствы, як агляд-конкурс калектываў, якія пакуль не маюць звання народных, а таксама конкурс чытальнікаў; гэты накірунак, на жаль, несправядліва забыты. Як і раней, будуць праводзіцца творчыя справаздачы, сустрэчы тэатральных калектываў, прадугледжана стажыроўка для рэжысёраў дзіцячых тэатраў.

Пра цікавы міжнародны праект расказаў калегам Яфім Берлянд, памочнік рэжысёра дзіцячага тэатра-студыі "Ветразь", што існуе ў Гомелі пры спецыялізаванай школе N 61. З дапамогай былога мэра Гомеля былі наладжаны культурныя сувязі з маладзёжнай тэатральнай групай Шатландыі (г. Абердзін), а праз іх — з самадзейнымі артыстамі французскага горада Клерман-Феран. Вынікам творчага супрацоўніцтва стаў сумесны спектакль "Міледыум", паказаны ў Шатландскім каралеўскім тэатры.

Напрыканцы сваёй сустрэчы рэжысёры паглядзелі і абмеркавалі спектакль па п'есе Г. Каржанеўскай "Чарнабог", які ў афішах меў назву "Белае і чорнае". Пастаноўку ажыццявіў Тэатр музычных асацыяцый "Атман", што адкрыўся пры гомельскім Доме настаўніка (рэж. І. Абрамовіч). Адзначана, што выразнэнне сродкамі пластыкі вербальнага тэксту з'яўляецца па сутнасці эксперыментам.

"Культура — дама гордая. Прыходзяць апошнія, адыходзяць першыя..." Гэтыя горкія словы вядомага расійскага артыста прагучалі і тут, у Гомелі. Радуе толькі тое, што пры любых адносінах да культуры (а Гомельшчына, як мне сказалі, фінансуецца найгорш) не затухае творчы агеньчык у людскіх сэрцах.

**Наш кар.**

Архіварыус

# КАСМІЧНЫЯ ГІПОТЭЗЫ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

"Я адзін, я кругом адзін, адзінокі. Я не маю каму пазаставіць гэтую працу сваю пад апеку, дзеля выпуску ў свет. Дык дзеля чаго і каго я ўсё гэта пішу? А пішу... Не, я не адзінок... Са мной думкі і сіла любві да гармоніі творчай сусвету".

Такімі словамі скончыў у 1937 г. сваю кнігу "Дзе мы і хто мы. Бяседы аб утварэнні Свету. Небазнаўства" Язэп Нарцызавіч Драздовіч (1888—1954 гг.). Велізарная духоўная спадчына Я. Драздовіча па небазнаўстве, па касмалогіі, на сённяшні дзень застаецца невядомай. Сам Драздовіч называў сябе "любіцелем тэарэтычнай астраноміі". Ён быў першым, хто пачаў на Беларусі ў пачатку 20-га стагоддзя самастойна вывучаць і даследаваць зорнае неба, стварыць тэарэтычныя гіпотэзы аб паходжанні і ўтварэнні планет нашай сонечнай сістэмы, даказваў існаванне жыцця на Месяцы, Сатурне, Венеры, намагаўся зацікавіць беларусаў астранамічнымі ведамі, аб чым яскрава сведчыць яго кніга "Нябесныя бегі", выдадзеная ў Вільні ў 1931 г.

Я. Драздовіч пачаў цікавіцца "небазнаўствам" з дзяцінства, асабліва падчас вучобы ў Віленскай школе мастацтва (1906—1910 гг.), знаходзячы ў бібліятэчнай зале кнігі, атласы па астраноміі. Але вайна, якую ён называў "страшэнным, вялікім зладзействам паміж людзей, піхаючага цэлыя мільёны людзей на забойства... на душэнне жывых істот", прывяла яго, разам з рэвалюцыйнымі падзеямі і натхненнем да "адраджэння Беларусі", у "спольшчаную Вільню" ў 1930 годзе, дзе ён апынуўся ўжо беспрацоўным.

Зняўшы за апошнія грошы пакой на верхнім паверсе на вул. Ліпаўка, ён пачынае сістэматычна працаваць над кнігамі па астраноміі прафесара Мэйера, Чэмберса ("Сонечная сістэма"), а разам з тым праводзіць начныя "абсервацыі" планет, запісваць свае меркаванні і пачынаць уседамляць касмічнае прызначэнне чалавецтва. Вынікам яго першай астранамічнай працы і з'явілася кніга "Нябесныя бегі", якую ён прысвяціў усім "ахвярнапрацуючым дзеля навукі, на добрае карыстанне", а таксама бацькам сваім — Нарцызу, што пры жыцці сваім любіў гутарыць аб планетах, і Юзэфе, ад якой не раз чуў: "Вучыся і пазнай нябесныя бегі". У кнізе гэтай упершыню выкладаюцца сучасныя астранамічныя назвы на беларускай мове, разам з агульнапазнавальнымі звесткамі пра "цэнтрацяжны і адлегласцевазаемацяжны прыцяг паміж нябесных цел", ролю, якую "іграюць у існаванні нябесных цел іхнія павярхоўна-цэнтрацяжныя пазаатмасферныя броні". Другая частка кнігі прысвечана "кружніку Сатурна", дзе аўтар разглядае "магчымасці жыцця на суцэльнацэлых абручах кружніка Сатурна", а таксама тлумачыць, чаму "ў час роўнадзення на Сатурне асвятленне абручоў Сонцам адбываецца не адначасова". Асабліву прыгажосць і каштоўнасць кнізе надаюць 15 лінарытаў (схематычных малюнкаў), зробленых Я. Драздовічам.

У гэты ж час ствараецца адна з асноўных тэарэтычных прац "Аб паходжанні самакрутных планет сонечнай сістэмы", якую Я. Драздовіч здае на захоўванне ў бібліятэку АН БССР, але пра асноўныя палажэнні якой ён працягвае апавядаць нам амаль ва ўсіх сваіх наступных працах. Вялікую дапамогу ў касмалагічных ведах зрабіла звышпачуццёвая здольнасць самога Язэпа, якая дазваляла яму ў самнамбулічных снах лёгка пераносіцца на Месяц ці на Венеру. Магчыма таму ён зазначаў "Сказаў бы я падрабязна, адкуль я ўсё гэта ведаю, але дзеля таго, што пішу тут ні для аднаго ці некалькіх у адналькавай ступені, а для невядомых мне ўсіх, змушу змаўчаць". Серыя кніг Я. Драздовіча прысвечана яго самнамбулічным снам, праз якія мы можам даведацца аб існаванні разумнага жыцця на Месяцы і на Марсе, сустрэць падрабязна апісанне лунідаў і галаскурых заўрыдаў (земнаводных скакуноў Месяца), даведацца аб паходжанні каналаў Марса і аб тым, што "марсіяне — гэта самы наймiралюбівейшы народ у нашым сонечным сусвеце".



Асноўная тэарэтычная праца — манаграфія "Тэорыя руху ў касмаганічным значэнні" — напісана Драздовічам у 1948—1949 гг., магчыма як дапаўненне да яго працы з аднолькавай назвай, якую ён напісаў у 1937—1938 гг. на Дзісеншчыне, вандруючы па вёсках дзеля заробку мастаком маляваных дываноў, што ўпрыгожвалі інтэр'ер вясковых хат. У сваёй прадмове да "Тэорыі руху..." ён пералічвае 16 навін для навукі, якія ён паступова разглядае ў сваёй працы. Драздовіч вылучае гіпотэзы, паводле якіх планеты трымаюць "друг дружку сваім узаемным адлегласцевым прыцягам у акруглястых нябесных цел не асяродкам за асяродак, а асяродкам за бакі, за бакавыя захілы (авалы)". "Што наш Месяц, як сем'янін нашай сонечнай сістэмы, на многа старэйшы за нашу Зямлю". "Што першапачатковая сонечная планета складалася толькі з адных планет несамакрутных, а лунападобных. А самакрутныя планеты з'явіліся пазней з парназоркавых сістэм, як разлучоныя ды ўвашэдшыя ў склад сонечнай сістэмы як запаланеныя нашым Сонцам на сваім сонечным шляху". "Што сонечная сістэма рэч зборная, рознаэпохавая, ды што працэс утварэння сонечнай сістэмы яшчэ не закончан" і г. д. Шмат месца займаюць пытанні "аб геалагічным стане Зямлі, аб залежнасці землятрасенняў ад "прычын касмічных", аб залежнасці цячэння Гольфстрым ад нахілу зямной восі, аб магчымым газападобным стане зямнога ядра". Уся праца насычана філасофскімі разважаннямі аўтара "аб еднасці прыроды сусвету, аб неабходнасці існавання вышэйшай, разумнай сілы, якая кіруе гармоніяй руху планет". Асабліва гэта тэма разглядалася ў згаданых "Бяседах па небазнаўстве", а таксама ў дзённікавых запісах за 1933—37 гг.

Асаблівай увагай Я. Драздовіча карысталася гіпотэза аб "Ператваральных зонах", якую ён разам з працай "О происхождении самовертящихся планет солнечной системы" адаслаў у 1952 г. у фізіка-матэматычны факультэт БДУ імя Леніна на рэцэнзію. Прафесар Пахута ў адказе перабылтаў слова "самовертящиеся" са словам "самосветящиеся" і таму, пэўна, наогул не зразумеў, аб чым ішла размова ў працы Я. Драздовіча.

Безумоўна, не кожная касмічная гіпотэза Я. Драздовіча можа быць асэнсавана сёння аднолькава. Але відавочна, што "чорныя дзіркі", выведзеныя спачатку тэарэтычна і даказаныя сёння амаль практычна, маюць шмат падобнага ў фізічнай структуры з "ператваральнымі зонамі", а паходжанне Месяца з Зямлёю разглядаецца некаторымі вучонымі праз парназоркавую сістэму, у якой яны раней існавалі.

Духоўная спадчына Я. Драздовіча па касмалогіі павінна трапіць у поле зроку навуковых спецыялістаў — гісторыкаў, філосафаў, астрафізікаў Беларусі. І я ўпэўнены, што Я. Драздовіч яшчэ скажа нам, беларусам і жыхарам Зямлі, свае духоўныя слова.

**Юры ШАЙКОЎ**

Вандроўкі

# АДРАДЖАЮЧЫ ТРАДЫЦЫІ

ЛЮБОЎ да манастыроў і святых месцаў выклікала ў людзей звычай хадзіць на багамолле ці паломнічаць. Мноства людзей, мужчын і жанчын, старых і маладых, з клункам за плячыма, з посахам у руцэ і з малітваю на вуснах цярпліва ва ўсякі час года ішлі з аднаго манастыра ў другі. Яны часта неслі туды сваё гора і ў сценах манастыра знаходзілі дапамогу і суцяшэнне.

Да пэўнага часу так было і на землях Беларусі. Але пазней традыцыя паломніцтва была забыта і адрадзілася толькі ў 1992 годзе, калі было ажыццёўлена паломніцтва ў Жыровіцкі манастыр на Прастольнае свята — свята Успення Прасвятой Багародзіцы.

З таго часу было здзейснена яшчэ пяць паломніцтваў, апошняе з якіх, па ўжо сталай традыцыі, адбылося сёлета ў жніўні ў той жа Жыровіцкі манастыр.

Кожны год на свята Успення ў Жыровіцы прыязджае мноства вернікаў з розных куткоў Беларусі. З верай і надзеяй у душы, з трапяткім хваляваннем у сэрцы збіраюцца яны там, каб памаліцца і пакаяцца ў сваіх грахах. З гэтай мэтай і мы вырашылі наведаць святы куток беларускай зямлі.

У Мастах, адкуль пачыналася паломніцтва, мы сустрэліся з групай праваслаўных палякаў з Беластока, якія ўжо чацвёрты раз прынялі запрашэнне на ўдзел у паходзе да вялікай святыні беларускай зямлі. Сустрэча з імі была па-хрысціянску цёплай. І нашая група накіравалася ў мясцовую царкву "Усіх тужлівых радасці" для сустрэчы з жыхарамі Мастоў і адпраўлення малебнага песняспеву.

Пасля гэтага мы пачалі разыходзіцца па сем'ях. Колькі было жадаючых узяць да сябе паломнікаў! На кожным кроку нас прыпынялі веруючыя бабулькі і прапаноўвалі пайсці да іх начаваць. Было прыемна ўсведамляць, што на Беларусі ёсць сапраўды набожныя і чулыя людзі, гатовыя дапамагчы табе ў любы момант. Прымалі ўсіх вельмі цёпла, як родных. Так было і ў іншых сем'ях, дзе нам даводзілася прыпыняцца.

Раніцай, справіўшы малебен, мы выправіліся ў дарогу. На гэты раз паломніцкую групу суправаджаў праваслаўны польскі манах — ігумен Гаўрыіл. Адкуль у гэтага ўжо немаладога чалавека бралася столькі сілы, каб увесь час ісці наперадзе калоны ды яшчэ падбадзёрваць астатніх, аднаму Богу вядома.

Але вось мы выйшлі з Мастоў. Добразычлівыя людзі, якія сустракалі і праводзілі нас, сонныя вулачкі — усё засталося ззаду, а наперадзе нас чакала цяжкая, поўная нечаканых паваротаў дарога.

У першы дзень нам давялося прайсці каля трыццаці кіламетраў. Вы скажаце: "Гэта цяжка". Магчыма. Але з намі быў Гасподзь. Мы ішлі з верай у душы, і нам была дапамога. Вядома, без сцёртых ног і ныючых цягліц не абышлося, але ўсё гэта адсоўвалася на другі план, бо мы ўсведамлялі, дзеля чаго нам выпалі такія выпрабаванні.

Наша група ішла паўзбоч дарогі. Міма праязджала мноства машын. Некаторыя прыпыняліся, і з акенцаў былі бачныя твары людзей, якія з цікаўнасцю разглядалі першую працэсію з крыжамі ды іконамі.

У кожным населеным пункце нас сустракалі мясцовыя жыхары на чале з настаяцелямі прыходаў. Яны гасцінна прымалі нас, частавалі яблыкамі, прапаноўвалі спаталіць смагу. Адслужыўшы малебен, мы ішлі далей.

Якім чынам я стала паломнікам? Адказваю. Калісьці я займалася ў царкоўнай нядзельнай школе. Там у мяне было шмат сяброў. Скончыўшы гэтую школу, мы падтрымлівалі адносіны. Аднойчы мне патэлефанаваў мой знаёмы і прапанаваў схадзіць у паломніцтва ў Жыровіцы. Я ніколі не паломнічала, але шмат чула пра гэта, і мне было цікава. Таму, нядоўга думаючы, я згадзілася. Тым больш, што лета ўжо канчалася, і хацелася добра з ім развітацца.

Па праўдзе кажучы, калі я ішла разам з іншымі паломнікамі, мне здавалася, што ўсе яны вялікія вернікі. Я нават адчувала сябе крыху няёмка, бо, нягледзячы на тое, што верыла ў Бога, усё ж такі не была настолькі фанатычнай, каб ісці ў паломніцтва, і зрабіла гэта толькі дзеля цікавасці. Але ўжо праз дзень-другі я зразумела, як памылялася. У паломніцтва хадзіла амаль адна моладзь, і падобных мне тут было шмат. Людзей старэйшага пакалення было толькі некалькі чалавек.

Па меры таго, як мы ішлі, усе перазнаёміліся адзін з адным, і я даведалася, што каго прывяло ў паломніцтва. Гэтаму паспрыялі розныя акалічнасці. Адным, таксама як і мне, было цікава даведацца пра паломніцтва; другія ішлі ўжо не першы раз; трэціх прывёў сюды адчай, яны хацелі знайсці тут падтрымку і супакаенне; чацвёртыя з сапраўднай верай у душы ішлі ў Жыровіцы каб памаліцца і пакаяцца ў сваіх грахах. Карацей кажучы, кожны чакаў ад паломніцтва нечага свайго.

Наступныя некалькі дзён і начэй мала чым розніліся ад папярэдняга: доўгія дзённыя пераходы, начлегі ў вёсках, малебны, сустрэчы з людзьмі... Адзінае, напэўна, што я адзначыла б — гэта царква ў Сынковічах. Сучаснае жыццё, здаецца, не захапіла гэты куток. Як зараз памятаю дарогу туды. Стомленая, я ледзьве пераступала ногі. Гэта быў самы доўгі і складаны пераход за ўсё наша паломніцтва. Мы падаліся ўбок ад дарогі і звярнулі на нейкую сцежку. Праўду кажучы, я не звяртала ніякай увагі на навакольную прыроду. Памятаю толькі нейкія рэдкія дрэвы, высачэзнае кустоўе, некалькі закінутых пабудоў. Самым вялікім жаданнем для мяне на той момант было сесці дзе-небудзь і зрабіць хоць глыток вады. Дзень стаяў гарачы, і хацелася піць, ногі нылі ад мноства мазалёў, ва ўсім целе адчувалася стомленасць. Амаль увесь час я ішла, гледзячы ў зямлю, і ўзняла вочы, калі ўжо прыйшлі, і тады я ажноаслупянела: такое відовішча паўстала перада мной. Магчыма, некаторыя не знойдуць тут нічога цікавага: дзе-нідзе разваленая пабудова з шурпатымі сценамі, вузенькімі акенцамі, магутныя дзверы, якія надавалі будынку нейкую веліч, уверсе, на вежы, вялікі звон.



Храм адчынілі спецыяльна для паломнікаў. Унутры было даволі холадна, я нават пачала мерзнуць. На сценах амаль не было іконаў, і пафарбаваны яны былі ў нейкі блакітны, халодны колер. Я не магу дакладна ўзнавіць, што я ўбачыла, але адчувала я сябе там неяк няўтульна, нават было крыху жудасна. Яшчэ пахадзіўшы колькі часу па царкве, я выйшла з яе. Звонку мне падабалася больш. Тут краем вуха я пачула гісторыю, якая вельмі ўразіла мяне. Казалі, існуе паданне, што быццам бы пад гэтай царквой знаходзяцца падземныя хады, і кожнаму, хто спускаўся ў іх, ужо не было наканавана пабачыць белы свет. Туды баяцца хадзіць нават святары, і падземныя пераходы застаюцца загадкай сынковіцкай царквы.

Усё гэта так уразіла і зацікавіла мяне, што я вырашыла па прыездзе ў Мінск адшукаць якія-небудзь матэрыялы пра царкву. На жаль, шмат мне не ўдалося знайсці, але лепш мала, чым нічога.

Сынковіцкая царква з'яўляецца старажытнейшым абарончым храмам на Беларусі. Найбольш верагодным часам яе пабудовы можна лічыць канец XV— пачатак XVI стагоддзя. Будавалася яна даволі працяглы час. Выкарыстоўвалася царква мала. А калі пачаліся войны, эпідэміі, людзі зусім пакінулі гэтыя мясціны. І пра царкву ўсе забылі. Ходзіць легенда, што знойдзена яна была толькі ў мінулым стагоддзі паляўнічым, які выпадкова зайшоў сюды. У той час з усіх бакоў царква зарасла дрымучымі лясамі і толькі ў другой палове мінулага стагоддзя была праведзена рэстаўрацыя. Адчынілі гэты храм некалькі год таму.

Гэта сапраўды дзіўнае відовішча. Здаецца, што трапляеш у Сярэднявечча. Магутныя цагляныя сцены, маленькія акенцы байніцы — усё гэта характэрна для храма абарончага тыпу таго часу...

Такім чынам, крыху адпачыўшы, мы выходзім з Сынковічаў і трымаем шлях далей.

Наперадзе ў нас яшчэ Слонім і апошні пераход, які аказаўся даволі лёгкім, у параўнанні з папярэднімі. Гэта, відаць, таму, што мы ведалі: мэта, да якой імкнёмся, ужо блізка.

І вось, нарэшце, удалечыні паказаліся купалы Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Не ведаю, як у іншых, а ў маёй душы ўзнікла нейкае цёплае пачуццё, якое напоўніла маё сэрца радасцю і прымусіла яго трапятаць і біцца мацней. У мяне як бы з'явілася другое дыханне, стала лягчэй ісці. Напэўна, гэта месца ахоплена Боскай аўрай.

У Жыровіцах нас сустракаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт і епіскап Наваградскі і Лідскі Гурый.

Увечары мы адправіліся на службу. Гэта было сапраўднае свята, на якое сабралася вялікая колькасць вернікаў. У храме гарэла мноства свечак, і ліліся цудоўныя, Боскія песняспевы, ад якіх займала дух. Спакой і прымірэнне запаўнялі душу. Здавалася, ліха не існуе на свеце.

Затым мы пайшлі да святой крыніцы, каб акунуцца і тым самым ачысціць цела ад усялякіх хвароб. А для ачысткі душы ўсе жадаючыя прынялі таінствы споведзі і прычасце. Так скончыўся першы дзень нашага знаходжання ў Жыровіцах, які пакінуў шмат уражанняў.

На другі дзень, адстаяўшы ранішнюю службу, мы пачалі рыхтавацца ў зваротную дарогу.

Так, усё добрае калісьці канчаецца. Падыходзіла да канца і наша паломніцтва. Мы пакідалі святыя месцы з упэўненасцю, што абавязкова сюды вернемся. Пабываўшы тут аднойчы, нельга не прыйсці зноў. Таму мы кажам: "Да пабачэння, Жыровіцы!"

На будучае плануецца штогадовае традыцыйнае паломніцтва на свята Успення ў Свята-Успенскі Жыровіцкі манастыр, распрацоўваюцца некалькі паломніцкіх маршрутаў па іншых святых мясцінах Беларусі. Так што планы вялікія. Застаецца дзейнічаць. Сёння паломніцкая група перарастае ў паломніцкі цэнтр пры Беларускім экзархаце. Блаславенне на гэта даў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, з якім нядаўна адбылася сустрэча паломнікаў. І зараз ужо рыхтуюцца дакументы аб стварэнні цэнтра. Духоўным акарміцелем паломнікі прапанавалі быць айцу Сергію Гардуну.

Будзем спадзявацца, што ў нас з'явіцца шмат аднадумцаў, якія адчуюць патрэбу прайсці шлях, поўны выпрабаванняў, для выратавання душы сваёй. Так ішоў Ісус, несучы свой крыж у імя выратавання душ нашых.

Не ведаю, хто як, а я ў гэтым паломніцтве задаволіла сваю цікавасць, мэта, дзеля якой я ішла, была дасягнута. Нават больш за тое, у мяне змяніліся адносіны да жыцця. Я зразумела, што мы невыпадкова жывём на зямлі. І, каб жыццё было пражыта недарэмна, нам трэба прынесці нейкую карысць свету. І яшчэ: мы павінны радавацца і дзякаваць Богу ўжо за тое, што проста жывём на зямлі.

**Наталля БОЛБАТ,**
**навучэнка ліцэя пры БГАКЦ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Першынцы эпохі прэзідэнта — "Дзеці хлусні", "Сын за бацьку"... Як гэта ўдавалася рэцэнзентам хаваць ад нас новую класіку? Быццам бінокль з патайным дном трымалі перад намі гномікі — і малюпасенькі Ром не заўважаў Азаронка з Яроменкамі. Ды жару ўжо гарэць, ці патушыш яго, ці панізіш, хутка і мы будзем мець свой "Звычайны фашызм".

●

Касцёл прастаяў каля трох вякоў. За суткі ўзарваў яго Бараўкоў. Бараўкоў паблізу храма не рос. З Расіі прыехаў партыйны бос. Бараўкоў у "сферах" растварыўся даўно. Свой касцёл не забыла Сянно. Кажуць, — праўда гэта ці не — відаць касцёл на азёрным дне.

●

— Бацька, — спытаў хлапчук задуменны, — дзевятка больш за дванаццаць мільёнаў? — Безумоўна, — пачуўся адказ шпаркі, — але лепш іншамарка.

●

Замежныя фірмы, калі рэкламуюць лекі, дбаюць не аб здароўі народа. Вядома, як няўмольна аптэкі спісваюць тое, што траціць прыгоднасць. Мы свае лекі не рэкламуем, спісваем — і не бядуем. Калі безгаспадарчасць — сутнасць улады, лекі толькі прыватны выпадак. "Ад лекаў — да чалавека", як пішуць у аптэках.

●

П'еса ў трох дзеях пра безвыходны лёс мастака. Маштаб падзеі: запор у дажджавога чарвяка.

●

Ён "вучыць" — і прыспешнікі бяруцца за алоўкі. Натуюць, перасмешнікі, не думкі, а абмоўкі. Аратар не спыняецца, не зачыняе рота, прамовы не канчаюцца, канчаюцца блакноты.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-660

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4822
Нумар падпісаны 19.12.1996 г.
Заказ 6964/Г

П 23456789101112
М 123456789101112